ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

14 КРАСАВІКА 1995 г. № 15 (3787) Кошт 400 руб.

# МАЦІ БЕЛАРУСЬ

**Вольнымі ўстаньма з каленяў.**
**Выбару ў нас няма.**
**Будучым пакаленням**
**Больш не зазнаць ярма.**
**Родны лес і гоні,**
**Край азёр, крыніц.**
**Кліч святой Пагоні**
**Нам з вякоў звініць.**

**Бел-чырван-белы сцяг**
**Рэе ў сіняве.**
**Мы — змагароў працяг.**
**Жыві, Беларусь!**
**Жыве!**

**Нам будаваць сваё шчасце —**
**Вольнае немаўля.**
**З атамнае напасці**
**Уваскрасай, зямля!**
**Зло ліхое зможам.**
**Годнасць люд зберог.**
**Славу мы памножым.**
**Бачыць гэта Бог.**

**Бел-чырван-белы сцяг**
**Рэе ў сіняве.**
**Мы — змагароў працяг.**
**Жыві, Беларусь!**
**Жыве!**

**Уладзімір ПАЎЛАЎ**

# ЦІ АПОМНІЦЕСЯ, ПРЭЗІДЭНТ?

**Вось — гвалтоўны гісторыі ход:**
**пагарджаны вякамі народ,**
**што душою аглух і аслеп,**
**плюне ў мову, і ў сцяг свой, і ў герб.**

**І ад нас, як адвернецца свет,**
**ці задумаецеся, прэзідэнт?**

**Набрыняе крывёй каляндар,**
**кіне Бога сумленны святар.**
**Роспач вусны прароку замкне,**
**вучні ўтопяць жалобу ў віне.**

**І тады, як смерць прыме паэт,**
**ці апомніцеся, прэзідэнт?**

**Шчэ ёсць вера ў інакшы зыход:**
**да глумлення не дойдзе народ**
**са святыняў сваіх, напаказ...**

**І тады, калі грымне адказ,**
**што не гнюс ён і не самаед, —**
**ці пакаецеся, прэзідэнт?**

**Алесь КАСКО**



# ЯК ТРЫСТА І АДЗІН РУБЕЛЬ

...Каб зрабіць подпісы пад здымкі з гэтага спектакля, не спатрэбілася зазіраць у п'есу або пераглядаць спектакль. Эмацыйная памяць адгукаецца адразу. Персанажы спектакля, разам з усім, што робяць ды кажуць, спакваля, незаўважна паланілі тутэйшую мастацкую свядомасць, паміж усім вясёлым ды філасафічным увасабляючы нечаканае развіццё заняпалай, а то і вынішчанай традыцыі. Варта ўявіць, які быў бы сённяшні яе стан, калі б у спракавечную крынічную празрыстасць не сыпалі раз-пораз — то пяском, то смеццем, то, перапрашаю, рэферэндумам, які нібыта вырашыць яе прыдатнасць. Адметным ды шматзначным здаецца тое, што жыццё і новы змест традыцыі сілкуе тэатр пад назваю "Альтэрнатыўны"...

"...Камедыя пра злашчаснага селяніна Дзёмку, ягоную жонку Маланку, жыда-арандара Давіда і пра Чорта, які страціў сэнс існавання". Тое, што прапаноўвалі (на адлегласці адзін ад аднаго ў тры стагоддзі) драматургі Каэтан Марашэўскі ды Францішак Аляхновіч, пераможна завяршыў Уладзімір Рудаў і разам з Андрэем Андросікам давёў да сцэны. Спачатку — навучальнай былога БДТМІ, цяпер Акадэміі мастацтваў. Потым — трэба было мець густ ды пільнае вока Вітаўтаса Грыгалюнаса, кіраўніка "Альтэрнатыўнага", які запрасіў выканаўцаў-студэнтаў да сябе працаваць разам з напрацаваным, — з "Камедыяй...". Летась тэатр узяў удзел у двух фестывалях на Украіне, з абодвух прывёз па гран-пры. Першым са спектакляў, што здабылі гэтыя гран-пры, пазначалася "Камедыя...". Апярэджваючы яе соты паказ у наступным сезоне, адновім справядлівасць: глядач ужо прымае

*(Працяг на стар. 13)*

***Пасля "варфаламееўскай" ночы ў беларускім парламенце ў думках тых, каму неабыякавая будучыня нашае Бацькаўшчыны, пэўна, не засталося месца сумневам, як далей жыць і што рабіць. Час кампрамісаў прайшоў. Ды і добрыя кампрамісы толькі ў тым выпадку, калі ідуць на іх абодва бакі. Прэзідэнт даў зразумець Вярхоўнаму Савету і ўсім нам, што цікавіць яго абсалютна ўлада і дзеля яе ён не спыніцца ні перад чым. Тое, што адбылося ў ноч з 11 на 12 красавіка, не пераварот і не крок да грамадзянскай вайны. "Пераварот" адбыўся крыху раней і "ціха", а грамадзянскай вайны ў нас не будзе ніколі, як бы камусьці ні хацелася яе зарганізаваць. Не будзе і дыктатуры. Дзесяць апошніх гадоў не прайшлі бясследна для свядомасці большасці беларусаў. Усе народы вакол нас будуюць новае, заможнае, самастойнае жыццё, дык ці захоча наш народ вяртацца назад, у "светлую будучыню"? Тое ж, што адбываецца цяпер, інакш як рэстаўрацыяй камуна-савецкага ладу (аж да прапаноў вяртання сцяга і герба) не назавеш. Прытым робіцца гэта зноў сілком і зноў, быццам бы, ад імя народа. Аднак палітыка "закручвання гаек" ніводную ўладу да дабра не даводзіла. Надыдзе момант (надыходзіць!), калі "разьба сарвецца" і ніякі АМАП тады не зможа стрымаць імкненне народа да волі і дабрабыту ў сваёй дзяржаве. І супраць лому ёсць прыёмы.***

## СЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ

Вярхоўны Савет адхіліў тры з чатырох пытанняў, прапанаваных прэзідэнтам для вынясення на рэферэндум. Зацверджана толькі пытанне аб эканамічным супрацоўніцтве з Расіяй, супраць чаго не выступае на Беларусі ніхто, нават самыя ярыя нацыяналісты (не на асобным жа востраве жывём...). У чарговы раз даводзіцца шкадаваць, што Беларусь не парламенцкая, а прэзідэнцкая рэспубліка, і будучыня нашае краіны залежыць не ад калектыўнага розуму соцень людзей з рознымі палітычнымі поглядамі, а ад прыхамаці аднаго, надзеленага вялізнай уладай, чалавека.

## ПРЫНЦЫПОВАСЦЬ ТЫДНЯ

Наш парламент вызначыўся на мінулым тыдні і яшчэ раз: ён не даў згоды на прыцягненне да крымінальнай адказнасці галоўнага рэдактара газеты "Свабода", народнага дэпутата Ігара Герменчука за публікацыю ў газеце ананімнай паэмы "Лука Мудзішчаў — прэзідэнт". У галоўным героі паэмы, невядома па якіх прыкметах, прэзідэнт нібыта пазнаў сябе і палічыў гэта за абразу. Дэпутаты не ўключылі нават у парадак дня сесіі гэтае пытанне.

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"...Камунізм стаў зменлівы і шматаблічны з дзівоснаю здольнасцю да пераўтварэння. Ён жвава падладкоўваецца пад сацыял-дэмакратыю, яднаецца з архаікай панславізму, перацякае ў камуна-фашызм, уцягваючы ў сваё атрутнае асяроддзе люмпенізаваныя ды маргінальныя элементы, утвараючы тым асабліва небяспечную грымучую сумесь. Тая сумесь здольная на самыя нечаканыя выверты, спрэс антыдэмакратычнага, антынацыянальнага, антычалавечага кшталту. Здаецца, гэта апошні шанц сусветнага камунізму. Але драматызм сітуацыі заключаецца ў тым, што і для нашай спазнелай дэмакратыі канец XX стагоддзя таксама ўяўляе ці не апошні шанц. Вось гэтыя шанцы і сышліся разам, каб цяперашнім пакаленням вырашаць: хто — каго?..

Мы не цешым сябе хуткай і лёгкай перамогай — лёгкай перамогі не будзе. Але нават яўная параза не павінна адкінуць нас ад нашае справы, бо тая справа святая. Яна дзеля народа, дзеля нашай занядбанай нацыі. Дзеля чалавецтва і чалавечнасці. Дзеля дэмакратыі і гісторыі нарэшце".

*(З выступлення Васіля Быкава на IV з'ездзе БНФ)*

## НАВІНА ТЫДНЯ

6 красавіка Беларусь стала марскою дзяржавай. У гэты дзень у дзяржаўным рэестры марскіх суднаў Рэспублікі Беларусь быў зроблены першы запіс: унесены дадзеныя аб судне "Гайдук", якое перададзена польскімі маракамі ў арэнду сумеснаму беларуска-польскаму прадпрыемству "Белмора-І". Траўлер-фабрыка "Гайдук" знаходзіцца цяпер у міжнародных водах Ціхага акіяна. Над ім узаўецца дзяржаўны бел-чырвона-белы сцяг.

## ПАСТАНОВА ТЫДНЯ

Прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір падпісаў пастанову, паводле якой Кабінет Міністраў стаў заснавальнікам газет "Рэспубліка", "Беларуская Ніва", "Звязда" (сумесна з Вярхоўным Саветам), "Знамя юности" і часопісаў "Вожык", "Беларуская думка", "Работніца і сялянка". Міністэрству культуры і друку рэкамендавана стаць сузаснавальнікам часопіса "Чалавек і эканоміка". Кабінет Міністраў "падгроб пад сябе" выданні, заснавальнікамі якіх былі некалі ЦК КПБ ці ЦК ЛКСМБ (акрамя "Чырвонай змены" і "Маладосці"), што само па сабе сімптаматычна і сведчыць пра вяртанне да мінулых "цэкоўскіх" метадаў і формаў работы з рэдакцыямі і рэдактарамі. А гэта азначае, што плюралізму і вольнасці ў нашай прэсе значна пабольшае.

## СКАНДАЛ ТЫДНЯ

Беларускае тэлебачанне часта крытыкуюць за тое, што яно мала чым адрозніваецца ад тэлебачання маскоўскага. Да нядаўняга часу крытыка гэтая выглядала беспадстаўнаю і павярхоўнаю. Бо калі і можна было абвінаваціць нашых тэлевізійшчыкаў у чым, дык гэта ў прымітыўным плагіяце альбо непрафесійнасці, але не ў самым галоўным — у карупцыйнасці, што працвітае ў Маскве. Асабліва ў шоу-бізнесе. І вось непрыемнае здарэнне: у службовым кабінеце, падчас атрымання хабару, работнікі міліцыі арыштавалі генеральнага дырэктара дырэкцыі праграм БТ Бахціяра Бахціярава. Аператыўнікам удалося амаль немагчымае ў міліцэйскай практыцы: злавіць хабарніка на месцы злачынства. Існуюць версіі, што Б. Бахціярава "здалі" ягоныя ж набліжаныя, каб звесці нейкія рахункі. Вядзецца следства.



*Парламент*

# ПРАГА РЭВАНШУ?

Раніцай 10 красавіка перад Домам урада, акурат ля помніка У.Леніну, двое спрытных маладых людзей сустракалі дэпутатаў, што кіраваліся на пленарнае пасяджэнне Вярхоўнага Савета, прапаноўваючы ім невялікага памеру ўлётку. Не абыходзілі яны ўвагай і журналістаў, акрэдытаваных пры парламенце краіны.

Зірнуў я на тую ўлётку ўжо ў зале. З першага ж радка стала ясна, што тут да чаго. "Народное движение Белоруссии требует от Вас поддержать предложение президента республики А.Г.Лукашенко о проведении 14 мая 1995 года референдума". "Требует!" Ні больш, ні менш. Другі бок улёткі, спярэшчаны зверху да нізу круглымі пячаткамі падпісантаў, нагадваў спіну хворага, з якой толькі што знялі медыцынскія банкі.

Сярод аўтараў улёткі — знаёмыя асобы. Старшыня Думы партыі Славянскі сабор "Белая Русь" Сяргееў, старшыня ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі Крывенка. Не абышоўся такі "дакумент" без подпісаў кіраўнікоў іншых арганізацый, што ўваходзяць у так званы "Народны рух Беларусі" — Саюза афіцэраў, аб'яднання "Ветэран", Асацыяцыі пісьменнікаў "марыністаў і баталістаў", Грамадска-палітычнай арганізацыі працоўных (ГПАП) і да т.п. Спіс падмацоўваўся рэзалюцыяй: "Верно" і подпісам самога старшыні НРБ Гайдукевіча.

Нехта са сталых чытачоў "ЛіМа" можа спытаць: а ці варта было наогул звяртаць увагу на "произведение" такой сумніцельнай вартасці? Магчыма, яны мелі б рацыю, калі б не адзін відавочны факт: ініцыіраваны прэзідэнтам рэферэндум, самым актыўнейшым чынам падтрыманы ўсімі пракамуністычнымі сіламі краіны (пра што, у прыватнасці, сведчыла і нагаданая ўлётка), не што іншае, пэўна, як прага рэваншу за чорны для камуністычнай партнаменклатуры жнівень 1991 года, калі дэмакратычная грамадскасць Беларусі, яе прадстаўнікі ў Вярхоўным Савеце прыпынілі дзейнасць "всесильной" дагэтуль кампартыі Беларусі і гэтым, па сутнасці, паклалі пачатак новых, посткамуністычных часоў.

Так, наша Канстытуцыя прадугледжвае правядзенне ўсенародных рэферэндумаў па найбольш важных, актуальных пытаннях жыцця краіны. Але ж пытанні, сфармуляваныя прэзідэнтам, такімі не з'яўляюцца, і гэта зразумела кожнаму аб'ектыўнаму назіральніку. З'яўленне іх на свет тлумачыцца, на маю думку, адным — як мага мацней ударыць па дэмакратычных сілах краіны і, у першую чаргу, па дэмакратычнай меншасці парламента, — носьбітах ідэі нацыянальнага адраджэння Беларусі, будаўніцтва сапраўды суверэннай, годнай у свеце міралюбнай дзяржавы.

Як і трэба было чакаць, парламенцкая апазіцыя БНФ і дэпутаты, што падзяляюць многія яе захады, адпачатку разгарнулі бескампрамісную барацьбу за адмену рэферэндуму.

Два тыдні назад, перад чарговымі парламенцкімі канікуламі, Вярхоўны Савет прыняў рашэнне менавіта 10 красавіка, пры аднаўленні сваёй працы, прызначыць дату правядзення рэферэндуму і абмеркаваць вынесеныя на яго пытанні. У бурных спрэчках 10 і 11 красавіка ініцыятыву праявілі праціўнікі рэферэндуму. Прызнаюся, уразіла аргументаванасць, "падсвечаная" страснасцю, я б сказаў, нават адвагай выступлення Н. Гілевіча і З.Пазняка, Ю. Беленькага і М. Крыжаноўскага, В. Голубева, А. Трусава, А.Вярцінскага і некаторых іншых прадстаўнікоў дэмакратычнага крыла парламента.

Атмасфера ў Авальнай зале тым часам усё больш наэлектрызоўвалася і ўрэшце выбухнула выступленнем лідэра апазіцыі З.Пазняка, які, звяртаючыся да кансерватыўнай часткі парламента, сказаў: "Вычарпаўшы ўсе магчымасці, у знак пратэсту супраць антызаконнасці і згубнасці вашых дзеянняў, мы аб'яўляем галадоўку тут, у цэнтры гэтай залы. Пачынаем яе цяпер, з гэтай хвіліны..."

Пасля гэтых слоў каля дваццаці членаў апазіцыі сабраліся ля трыбуны і паселі на прыступках вакол яе.

Ну, а што наш прэзідэнт? Аддамо належнае і яму. З уласцівай яму ўпартасцю ён адстойваў ідэю рэферэндуму, дэманструючы пры гэтым досыць хітрамудрыя палітычныя прыёмы. Галасаванне па вызначаных прэзідэнтам пытаннях дало нечаканыя вынікі — тры з чатырох не атрымалі належнай колькасці галасоў. Амаль сенсацыя, калі ўлічыць, што перад гэтым большасць Вярхоўнага Савета пагадзілася з прапановай А. Лукашэнкі прызначыць правядзенне рэферэндуму на 14 мая 1995 года.

Менавіта гэта і дало магчымасць прэзідэнту сказаць, што абумоўлены Канстытуцыяй парадак правядзення рэферэндумаў захаваны, што ён бярэ на сябе ўсю адказнасць за правядзенне рэферэндуму, што ён яго правядзе.

Карыстаючыся сваім правам прэзідэнта браць слова ў парламенце ў любы зручны для яго момант, Аляксандр Рыгоравіч неаднойчы звяртаўся да прысутных з доўгімі палемічнымі маналогамі. У апошнім сваім маналогу ён выклаў свае канцэптуальныя погляды на ўнутраную і знешнюю палітыку краіны, некаторыя з якіх выклікалі трывогу і неўразуменне. Думка аднаго пракамуністычнага дэпутата аб тым, што "апазіцыя нас цягне ў Польшчу, у іншыя краіны Захаду, а нам трэба глядзець на Усход" атрымала ў выступленні прэзідэнта больш выразныя абрысы. Сказаўшы, што "на Захадзе нас ніхто не чакае, там мы не патрэбны", А. Лукашэнка абрынуўся з абвінавачваннямі па адрасе Міжнароднага валютнага фонду, які, маўляў, умешваецца ва ўнутраныя справы краіны. Як можна было з далейшага зразумець, да такой высновы прэзідэнта прымусіла прыйсці МВФ, які выдзяленне льготнага крэдыту ў 200 мільёнаў паставіў у залежнасць ад правядзення эканамічных і дэмакратычных рэформ у рэспубліцы. На думку фонду, такія рэформы праводзяцца на Беларусі надзвычай марудна і таму ад прадастаўлення крэдыту ён вырашыў устрымацца. Падумалася: як жа разумець пераможныя рэляцыі, якімі суправаджаліся апошнія візіты беларускага прэзідэнта ў некаторыя краіны Заходняй Еўропы? Трэба было туды ехаць, каб упэўніцца, што нас там "не чакаюць"? Ва ўсякім разе такіх, якія мы сёння ёсць.

Наогул, мне падаліся досыць падазронымі супадзенні эскапад прэзідэнта ў бок заходніх краін з рыторыкай, без якой не абыходзіцца, бадай, ніводнае выступленне заўзятага трубадура пракамуністычных сіл прафесара В.Акулава (да якога неаднойчы публічна выказваў сваю прыязнасць А.Лукашэнка), вытрыманай у самых горшых традыцыях часоў халоднай вайны, нагнятаннем нянавісці да "амерыканскіх імперыялістаў", "Заходняй ілжэдэмакратыі" і да т.п.

Што тычыцца "Усходу", дык цеснае эканамічнае супрацоўніцтва з Расіяй жыццёва неабходнае для Беларусі, і гэта ані ў кога не выклікае сумнення. Але як разумець гэты лямант пэўных сіл, у першую чаргу камуністычных партнаменклатуршчыкаў, аб хутчэйшым аб'яднанні з Расійскай Федэрацыяй? З якой Расіяй яны хочуць аб'яднацца? З Расіяй Барыса Ельцына, якога яны люта ненавідзяць? Ці тут тонкі разлік на тое, што на змену яму прыйдуць Зюганаў, Руцкой, а мо і Жырыноўскі?

...Ужо пасля заканчэння пленарнага пасяджэння 10 красавіка, калі дэпутаты пакідалі залу Вярхоўнага Савета, я стаў выпадковым сведкам абмену, я б сказаў, спецыфічнымі жартамі паміж двума парламентарыямі — былым сакратаром ЦК КПБ і сённяшнім Генеральным пракурорам краіны. "Не, ты ўсё-такі, Васіль Іванавіч, — звярнуўся першы да другога, — арыштуй пару-другую тых смуцьянаў і ўсё стане на сваё месца". "Трэба будзе падумаць", — засмяяўся пракурор.

Гадоў недзе пяць-шэсць назад такія словы сакратара ЦК былі б успрыняты як загад...

**М. ЗАМСКІ**

*Пошта*

# КАМУ ПАТРЭБНЫ ІЛЮЗІІ?

***Каб зразумець кагосьці і прадбачыць яго магчымыя дзеянні, трэба паставіць сябе ў ягоную сітуацыю. Гэта неблагі спосаб дзеля больш-менш адэкватных разважанняў у пяцігоддзе Закона аб мовах, а прынагодна і аб дзяржаўнасці роднай беларускай. Перш за ўсё памятайма, кім быў прагаласаваны той акт і ў чые рукі перададзена яго выкананне. Бальшавікі, яны на тое і бальшавікі, каб ні з чым не лічыцца, з аніякай пастановай, ды строіць кепікі нават з маралі. А з народа то ўжо і падаўна.***

Вось свежы прыклад. Сакавіцкія польскія газеты з салодкім рогатам перадрукавалі змешчаныя ў вядомым "Альманаху свету" дадзеныя Рэспублікі Беларусь, што сярэдні даход на душу яе насельніцтва за мінулы год склаў дзве тысячы дзевяцьсот трыццаць амерыканскіх долараў. Значыць, далёка за сабою пакінулі мы, беларусы, і Польшчу, і некалькі іншых краін на захад ад Буга. Падзяліўшы на дванаццаць месяцаў, павінны былі штораз класці ў кішэню 245 далярчыкаў, пералічыўшы іх, ясная справа, у "зайчыкі".

Думаеце, некаму ў прэзідэнцкай капітуле пачырванеюць шчокі ад такое хлусні, ад такое сусветнае кампраметацыі?..

Склікалі хлопцы "круглы стол" з нагоды пяцігадовага ігнаравання Закона аб мовах. У жаргоне палітычнай інжынерыі гэта называецца: спусціць вентыль або выпусціць пару з катла. Гара нарадзіла мыш, скандальная трактоўка нацыянальнага слова сустрэлася на ім не з пратэстам, але ўсяго з заяваю, у якой — п р а п а н у ю ц ь. Пытаюся: каму? Хіба ёсць каму?

Закон аб мовах — паводле трапнага наватвора Яўгена Лецкі — не больш як ПРАПАГАНЬБА. Іначай не магло быць, улічыўшы менталітэт, інтэлектуальны ўзровень, камуністычны светапогляд яго ўстаноўшчыкаў і рэалізатараў. Камунізм ёсць глабальная ідэалогія і як такая яна не прымае да ведама існавання айчыны, прымату яе інтарэсаў. Лаяць за гэта чырвоных — усё роўна што лупіць пеўня за тое, чаму ён певень! Няма сэнсу, спадарыні і спадарове! Шкада здароўя. Папа рымскі нядаўна нагадаў палякам, што найперш яны ўсё ж католікі, пасля ўжо нацыя, народ. Той самы глабалізм, толькі афарбоўка кантрастная.

Я супраць дыскусіі з уладамі наконт Закона аб мовах. Паразуменне ў нацыянальных справах з камуністамі немагчымае проста ад іх прыроды. Яны абавязкова пакінуць цябе ў дурнях. Бацькаўшчына ім не мэта, а сродак.

# З'ЕЗД БНФ: ПРАЦЯГ БУДЗЕ

З моманту ўтварэння першай у сучасным разуменні палітычнай партыі склаўся і застаецца дагэтуль нязменным сцэнарый партыйных з'ездаў. Выступленне лідэра партыі з ацэнкай палітычнай сітуацыі і выкладаннем стратэгічнай лініі, — потым — абмеркаванне, потым прыняцце заключных дакументаў.

У мінулую суботу адбыўся з'езд Беларускага народнага фронту "Адраджэнне". Калі быць юрыдычна дакладным, прытрымлівацца пратаколу, дык адбыліся ў гэты дзень два з'езды БНФ: IV з'езд Беларускага народнага фронту як грамадскага руху і II з'езд Партыі БНФ. Тыя ж дэлегаты, тыя ж выступоўцы. Партыйная структура была ўтворана ў межах БНФ у свой час як юрыдычны "парасон" на выпадак, калі грамадскія рухі будуць адхілены ад удзелу ў выбарах, і кіраўніцтва фронту лічыць, што "загортваць парасон" няма патрэбы. Тым болей, што БНФ-рух сапраўды паступова трансфармуецца ў БНФ-партыю.

Асабіста мяне на з'ездзе ўразіла дасканалая арганізацыя: усе службы працавалі зладжана, выступоўцы трымаліся рэгламенту, гаворка ішла аб справе. Мітынговыя інтанацыі залай не падтрымліваліся. І гэта адно са сведчанняў палітычнай сталасці БНФ.

Зянон Пазняк распавёў пра трагічнасць нашага стану, пра небяспеку нацыянальнай катастрофы, якая чакае наш народ, калі пры ўладзе застанецца сённяшняе кіраўніцтва краіны. Закончыў ён усё ж такі на аптымістычнай ноце: плён нашай працы відавочны, і сёння мы працуем на будучыню!

Васіль Быкаў гаварыў пра магчымасць фашыстоўскага "беспредела" на Беларусі, калі дэмакратычныя сілы не здолеюць аб'яднацца ў імя ідэалаў Незалежнасці.

Зразумела, што праца з'езда была скіравана на будучыя выбары. На думку лідэра БНФ, зараз сітуацыя для выбаршчыкаў больш складаная, чым была пяць год назад. Тады выбіралі паміж КПСС і не-КПСС. Сёння значна шырэйшы спектр палітычных сіл, адпаведна пашырылася і поле для сацыяльнай дэмагогіі, цынічнага папулізму. Фронт, безумоўна, зрабіў высновы з апошняй (прэзідэнцкай) выбарчай кампаніі, але стратэгічная лінія БНФ застаецца той жа: Фронт, як і раней, ідзе на выбары адкрыта, без папулісцкіх хістанняў і абяцанак, разлічаных на дурняў. Кандыдаты ад БНФ, як і раней, будуць гаварыць людзям праўду. І пра цяжкі стан краіны, і пра цяжкасці выхаду з крызісу. Перадвыбарчы лозунг пяцігадовай даўніны "Галасуем за Беларусь!" захоўвае актуальнасць і сёння.

Шанцам для дэмакратаў сёння ёсць перадвыбарчы блок партый незалежніцкай арыентацыі, міжпартыйная дамова не канфліктаваць у часе выбараў, не перабягаць шлях адзін аднаму. Калі спрачаюцца дэмакраты, да ўлады прыходзіць дыктатар. Так ужо было ў гісторыі Еўропы...

З'езд БНФ прыняў шэраг рэзалюцый на злабадзённыя тэмы і эканамічную перадвыбарчую платформу. Мне думаецца, што калі б эканамічная праграма БНФ была рэалізавана, мы сёння жылі б не горш за палякаў або эстонцаў, мелі б стабільную нацыянальную валюту і добрыя, узаемавыгадныя стасункі з паловай свету (сёння ўсё замыкаецца на Расіі). Краіны Балтыі на практыцы даказалі правільнасць эканамічных распрацовак экспертаў БНФ, а ў нас урад, як чорт ладану, баіцца ўсяго, што зыходзіць ад парламенцкай апазіцыі, са штаб-кватэры БНФ на вуліцы Варвашэні, 8.

З'езд будзе мець працяг. Зноў на пасяджэнне дэлегаты збяруцца пасля выбараў.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# ПІСЬМЕННІКІ ПРАТЭСТУЮЦЬ

Глыбока абураны гвалтам над галадаючымі дэпутатамі Вярхоўнага Савета, Беларускі ПЭН-цэнтр даслаў 12 красавіка тэлеграму Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнку, Старшыні ВС Беларусі М. Грыбу і Генеральнаму пракурору Беларусі В. Шаладонаву з патрабаваннем узбудзіць з гэтага выпадку крымінальную справу і стварыць нармальныя ўмовы для працягу работы сесіі. Тэлеграму падпісалі В. Быкаў, У. Арлоў і К. Шэрман.

Тэлеграма падобнага зместу паступіла на той жа адрас і ад пісьменнікаў-супрацоўнікаў выдавецтва "Мастацкая літаратура". Яе падпісалі Р. Барадулін, В. Сёмуха, У. Арлоў, М. Кусянкоў, А. Рыбак, Л. Дранько-Майсюк, І. Кананові, К. Жук і іншыя. Усяго 30 подпісаў.

# "ПАЛАЦ" ДАЕ СПАДЗЕЎ...

"Старажытная беларуская музыка IX—XX стагоддзяў у сучаснай апрацоўцы" — так характарызаваў на афішах гурт "Палац" сваю праграму ў канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі. І свой напрамак у музыцы называе адпаведна "фолькмадэрн".



Не сакрэт, што цікавасць публікі да фальклору ў нашай краіне вельмі нізкая, калі не сказаць "ніякая". І справа тут не ў самім фальклоры — ён, як адна з прыкмет нацыі, неаддзельны ад яе. Аднак час не стаіць на месцы, новая рэчаіснасць вымагае новых падыходаў да звыклага, у тым ліку і да фальклору. Зрэшты, амаль уся сучасная папулярная музыка ва ўсім свеце так ці інакш грунтуецца на фальклоры. Канешне, розныя плыні гэтай музыкі па-рознаму выглядаюць, скажу так, у стасунках з фальклорам: некаторыя ў пэўнай ступені захавалі аўтэнтычнасць (блюз), у некаторых фальклорны корань праглядае праз нават адмысловыя аранжыроўкі (соўл), іншыя плыні стварыліся ў выніку спалучэння разнародных фальклорных традыцый (рэгей), і нават самыя "радыкальныя" напрамкі (хэві-метал, тэхна) не зусім згубілі прыкметы свайго паходжання.

Калі ж страчваецца гэты галоўны кампанент, грунт жанру, галоўнымі рысамі музычнага напрамку робяцца шэрасць ды спакладзенасць. Гэтага не пазбегла наша "афіцыйная" эстрада. Як вынік — большая частка насельніцтва арыентуецца альбо на заходнюю, альбо на расійскую поп-музыку (яшчэ пэўная аўдыторыя ёсць і ў беларускага рока, але з-за спецыфікі стылю ды другаснасці вялікай часткі рок-гуртоў гэтую аўдыторыю нельга лічыць значнай). Да таго ж, самыя высокапрафесійныя выканаўцы адзін за адным ад'язджаюць за мяжу...

І вось безнадзейнасць гэтай сітуацыі на беларускай эстрадзе рызыкнуў абвергнуць гурт "Палац". Рызыка ў тым, што шлях, які абраў гэты калектыў, вымагае грунтоўнай адукаванасці, бездакорнага густу і пачуцця стылю ды высокага выканаўчага майстэрства. А хіба можна інакш, калі імкнешся спалучыць старажытны фальклор з сучаснымі сродкамі ды прыёмамі выканання і аранжыроўкі? Несумненна, якасцямі, неабходнымі для поспеху ў гэтым напрамку, удзельнікі "Палаца" валодаюць, у чым можна было ўпэўніцца, наведаўшыся на той канцэрт у зале філармоніі.

Нельга сказаць, што хтосьці з публікі ў перапоўненай зале прыйшоў паглядзець на "Палац", не меўшы ніякага ўяўлення пра гэты гурт. Аднак адна справа — пачуць некалькі песень па радыё ці на "зборным" канцэрце, а іншая — убачыць вялікае шоу. Дагэтуль "Палац" выступаў больш за мяжой, чым дома — яго ўжо добра ведаюць у Францыі, Германіі, Польшчы, Італіі, Летуве. Нарэшце, адбылося нядаўна першае сольнае выступленне на радзіме, ды яшчэ на галоўнай акадэмічнай канцэртнай пляцоўцы. І, мяркую, што "строгая" зала наўрад ці памятае, каб дагэтуль яшчэ на чыімсьці канцэрце публіка танцавала не толькі ў праходах партэра, але й у ложы.

"Палац" так скарыстоўвае сучасныя рытмы, што фальклор у яго музыцы не маскіруецца, але наадварот — выкрышталізоўваецца, зіхаціць у іх, як каштоўны камень у добра выпрабленай аправе. Нездарма разам з "Палацам" на сцэне выдатна пачуваліся не толькі спявачка Вераніка Круглова, але й людзі, не вельмі блізкія да поп-музыкі: слынны майстар-рэстаўратар народных інструментаў і выканаўца фальклору Уладзімір Пузыня (дарэчы, поплеч з ім выступаў Пузыня-малодшы), фальклорнае трыо "Бронька", дзіцячы фальклорны калектыў з Калінкавічаў, энтузіяст беларускага фальклору з Сібіры Міхась Басякоў (ён прадэманстраваў адну з амаль страчаных традыцый беларускай народнай музыкі — баладны жанр).

Магчыма, шлях, якім пайшоў "Палац" пад кіраўніцтвам Юрыя Выдронка, сёння — адзіна правільны на Беларусі як для папулярызацыі фальклору, так і для надання ўласнага аблічча беларускай поп-музыцы. Калісьці аналагічным шляхам пайшлі "Песняры" і на ім дасягнулі вяршыні свайго поспеху. Аднак ухіл "Песняроў" быў усё ж у бок эстраднасці, тым болей, што большасць іх песень, блізкіх да народных крыніц, — аўтарскія, прынамсі, належаць яскраваму таленту У. Мулявіна. "Палац" жа, здаецца, знайшоў "залатую сярэдзіну". Большасць рэпертуару гурта — народныя песні, па якія хлопцы самі ездзяць па вёсках. Акрамя таленту, удзельнікі "Палаца" маюць яшчэ адну рысу — адданасць музыцы! Без яе ў гэты складаны для мастацтва час нядоўга схіліцца да якой іншай справы...

Папулярнасці "Палаца" спрыяе "бягучы момант": у свеце зараз узняўся інтарэс да музыкі фальклорнага напрамку. На гэтай хвалі зноў у пашане блюз, нарасхоп ідуць запісы нават вельмі спецыфічных яго ўзораў накшталт "зайдэка". А адзін з наймаднейшых стыляў — этна-поп (менавіта гэтак пазначылі б на Захадзе напрамак "Палаца"). Паводле слоў аднаго англійскага імпрэсарыо, "Палац" пакуль што адзіны на Беларусі гурт, здольны канкурыраваць з заходнімі музыкантамі. А таму... Хто ведае, можа, аднойчы "Палац" таксама бразне дзвярыма. Людзі з'язджаюць не ад цяжкасцяў, а ад безнадзейнасці. Застаецца спадзявацца, што наша культура не дойдзе да такога стану, калі гэтая "ўцечка мазгоў і талентаў" ператворыцца ў "эвакуацыю". Не без намаганняў гурта "Палац", чыю першую імпрэзу ў філармоніі дапамагла зладзіць фірма "Дайнова", нагода да гэткага спадзеву ёсць.

Пакуль што "Палац" — адзіны ў сваім родзе феномен масавай культуры. "Масавая культура" — не абраза, гэта складаная частка агульнай культуры нацыянальнай. Гэта добра ўсведамляюць на Захадзе, дзе ў галіне масавай культуры працуюць сапраўдныя таленты і прафесіяналы. І калі сёння з'яўляюцца феномены ўзроўню гурта "Палац", то ў беларускай масавай культуры ёсць шанц зрабіцца сапраўды масавай. І сапраўды культурай.

**Сяржук ШЛЁНСКІ**
*Фота Віт. АМІНАВА*

Тады — што рабіць?

Не вымаліш жа ў іх, каб ласкава захацелі быць беларусамі... Васіль Быкаў не памыляецца. Яго дыягназ дакладны па ўсіх параметрах. Беларусь атрымала гістарычны шанц выратавацца, але, на вялікі жаль, аказія такая з'явілася, як хлеб памерламу ад голаду...

Беларусь, аднак, будзе. Але не цяпер. Потым, значна пазней. Пакуль выгарыць, так сказаць, полымя няшчаснай рэвалюцыі... Ардэнаносныя цёткі і дзядзькі ідуць на пенсіі. Добры знак. Іхнія дзеці не памятаюць немца з аўтаматам, Сталіна ведаюць па выпадковай фатаграфіі, але не надта далёка адкаціліся ад бацькоў, не далей інерцыі зменнага часу. Яблык ад яблыні... Унукі пашыраць рысу таго кола. Яны мала-памалу набліжаюцца. Звярніце ўвагу: не пырскаюць слінаю на Беларускую Зямлю, не бегаюць па ёй з гікам ды пад чырванасцяжным "кумачом". Няхай тыя носьбіты памяці аб КПСС нацешацца ілюзіямі. Вольнаму воля, шалёнаму поле!

Падкопы супроць беларушчыны працягнуцца недзе да двухтысяча дзесятага года. Столькі адпусціць прырода энергіі змагарам за аднаўленне СССР. Перамагчы ў дэмакратычных выбарах усё роўна не перамогуць.

Каму сніцца "серп и молот"? Толькі рускім? А вось і не. Доўга рэгістравалі "Русское общество" ў Рэспубліцы Беларусь. Можа быць, нацдэмаўскія недабойкі заселі ў Міністэрстве юстыцыі? "Шутить изволите..." Усякае масці "Белай Русі" процьма і няма каму ўчыніць ім, чужа-агентурным, акуратны судовы працэс за дзяржаўную здраду. Дык у чым жа клопат з тым "Русским обществом"? Уся сутнасць у тым, што ствараюць яго камерсанты, якіх грашыма не падкупіш, бандытамі не спалохаеш, а далучаць Беларусь да Расіі і не думаюць, от заразы! Хочуць быць рускай нацыянальнай меншынёю, выступаюць за адзінадзяржаўнасць беларускай мовы, супраць закамплексаванасці "младшей сестры", дарэмшчыны для Расіі ў Беларусі і таму падобных праяў падкаланіяльнай псіхалогіі. У іх няма ілюзій наконт таго, што Рэспубліку Беларусь удасца от проста так зліквідаваць, пахаваць у магілу.

Закон аб мовах паказаў бы сябе лішнім у нармальна развітым грамадстве, як лішняя канстытуцыя ў Вялікабрытаніі. Яго ажыццяўленне не залежыць, аднак, ад моцы юрыспрудэнцыі. Належыць ён ідэалам светлае будучыні, у ягоную карысць запрацуюць пакаленні дзеячаў. Трэба барацьбы і пакут, без якіх анічога ў свеце не здзяйсняецца. Натура ўсякае ўлады такая, што чыніць яна тое толькі, да чаго прымушана. Адсюль адзінаслушнасць дэмакратычнага ладу, падпарадкаванасць выканаўчых органаў, а не іх вярхоўнасць.

У сучасных рэаліях Закон аб мовах не ўяўляецца неабходнасцю для ўладных структур, іх кіраўнічага цэнтра. Закінутасць гэтай прававой нормы не пагражае добраму самаадчуванню начальнікаў у кабінетах. Ігнаруючы яго, не рызыкуюць яны стратай пасад, спляжаннем сабе кар'еры. Час-часам хапае "круглага стала" дзеля прыліку. Сам уваходзячы ў іх ролю, я рабіў бы дакладна гэтак жа. Будучы выпакладаным з беларускага роду, не мучыўся б эмоцыямі ад прапажы нацыянальнага. Як еўнух, што няздольны кахаць жанчыну... У асімілянта не дакапаешся патрыятызму, які яму не болей чым славутая "лапша на уши". Механізмы дэмаралізацыі грамадства характарызуюцца сваёй разладжанасцю, адсутнасцю прынцыпаў, святасцей. Усё ў ім дазволена, перафразуючы Дастаеўскага. У такіх акалічнасцях выходзіць на трыбуну з Законам аб мовах — як быццам паявіцца ў перапынак матча на футбольным стадыёне з маралізатарскім дакладам; засыплюць бутэлькамі, пакалечаць. Ідэйка правесці рэферэндум аб двухмоўі нацэлена ў гэткі настрой і, вядома, мае на мэце адчапіцца ад тае жменькі патрыётаў Беларусі, якія не даюць спакою, залазяць за каўнер... Добры час на такі манеўр пакуль не прайшоў, бо праз нейкія дзесяць гадоў будзе ўжо позна і курам на смех. Не век жа векаваць беларусам у інфантыльнасці, дзяцінасці!

А чым жа ты іх, товарищей, стрымаеш? Чым прымусіш не страчваць розум і асабістую годнасць? Этычнай анафемай? Чхалі яны на яе!

Закон аб мовах, як і дзяржаўная сімволіка, цесна звязаны з рынкавымі рэформамі. І тое, і другое адбываецца са скрыпам. Але напрамак адзін: уладкаванне ўласнага лёсу, якога не было і не магло быць ва ўмовах Савецкага Саюза. Таму даходзім да глыбіннага пытання: ці адновіцца СССР? Кожны, хто ўмее сяк-так думаць, лічыць такое пытанне рытарычным або нават кловунскім. Рэформы тыя пойдуць у Беларусі ў бок паўкаланіяльнай залежнасці ад Расіі, гэта так. Ды непазбежныя яны! Наогул як такія. Значыць, чакае беларусаў вельмі працяглае змаганне за поўную самастойнасць (крыху на манер чорнае Афрыкі)... Самастойнасць — гэта не падарунак і не шчаслівая латарэя, а плод натугі, адчайнасці. Тым часам бяда за бядою... Праводзіць цяпер рэферэндум аб мове і сімволіцы — тое самае, што выклікаць у народзе цалкам цвярозы одум: а ці ад таго хлеба з каўбасою пабольшае і заробкі вырастуць за ноч? І ці перашкаджае рускаму брату беларуская мова, і ці пасварыцца расійскі двухгаловы арол з Пагоняй Рэспублікі Беларусь? А царскі сцяг Масквы з бел-чырвона-белым Мінска?..

**Сакрат ЯНОВІЧ**
*Крынкі, Беласточчына*

*Сын, ачмурэлы ад гарэлкі, забіў бацьку... Малады бацька ў стане ап'янення выкінуў з акна восьмага паверха васьмімесячнае дзіця... Сужыцелька ў гневе за тое, што не пакінуў ёй віна, кухонным нажом зарэзала свайго "каханка"... П'янтос-бацька цягам доўгага часу штодня гвалтуе сваю малалетнюю дачку... Зграя падлеткаў заманьвае ў падвал і, напаіўшы віном сваю аднакласніцу, жорстка здзекуецца з яе...*

*Такія і падобныя да гэтых паведамленняў ці не штодня публікуюць сёння нашы газеты. Мы чытаем іх, пераказваем знаёмым і калегам па працы, абураемся, але ўжо, здаецца, не жахаемся, не крычым на ўвесь белы свет: "Людзі, апамятайцеся! Людзі, што вы робіце? Вы ж самі губіце сваіх дзяцей і ўнукаў!" Ды ці пачулі б, каб і крычалі, білі ў званы?!*

*Палітычная і эканамічная нестабільнасць, неспакой і напружанасць у грамадстве, пагроза беспрацоўя і няўпэўненасць у заўтрашнім дні, збядненне пераважнай большасці народа, часам даведзенага да жабрачага стану, — усё гэта сталася прычынаю такога бурнага росту злаякасных хвароб грамадства, назва якіх — п'янства, алкагалізм і наркаманія. П'янства ў нас квітнела і раней, на жаль, ды апошнім часам забуяла асабліва, быццам ашалелі людзі, не цямяць, што робяць, як перад канцом свету. А ў дадатак на Беларусь прыйшла і наркаманія. Калісьці народ наш быў шчасліва ахаваны ад гэтае страшэннае бяды. Здавалася, што гэтак будзе заўсёды. Каб жа! Не абышла яна бокам і нас. А спецыялісты падлічылі, што для наркатызацыі краіны дастаткова двух-трох гадоў, пасля чаго выправіць сітуацыю вельмі і вельмі няпроста, а то і немагчыма. Пра гэта найперш сведчыць вопыт ЗША: магутная эканоміка краіны і вялізны патэнцыял паліцэйскай службы аніяк не могуць адолець эпідэмію наркаманства. Наркатычная ліхаманка захапіла і нашу бліжэйшую суседку Расію, з якой там, на жаль, не так змагаюцца, як усяго толькі канстатуюць, што хвароба лютуе...*

*Але — бліжэй да справы. Якая рэальная сітуацыя ў нашай краіне і што робіцца для прафілактыкі, папярэджання п'янства, алкагалізму і наркаманіі? Я паспрабавала адшукаць адказы на гэтыя пытанні ў Міністэрстве аховы здароўя і Міністэрстве ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь. У першым маім суразмоўцам быў галоўны псіхіятр-нарколаг краіны Алег ЛІСКОЎСКІ, у другім — старшы оперупаўнаважаны па асабліва важных справах аддзела па барацьбе з незаконным абаротам наркотыкаў Пётр ХАЛЮТА.*

# БЕЛАЕ ПОЛЕ ДЛЯ ЗЛАЧЫНСТВАЎ...

**— Алег Уладзіслававіч, якая дынаміка псіхічных захворванняў у Беларусі? Лічбы, якія надаралася бачыць у друку, сведчаць, што колькасць захворванняў расце. Наколькі небяспечны характар набыў гэты рост?**

— Сапраўды, колькасць псіхічных захворванняў, выпадкаў алкагалізму і наркаманіі няспынна расце. Сёння ў Беларусі на ўліку ў псіханеўралагічных дыспансерах амаль 140 тысяч хворых. Дададзім да гэтай лічбы больш чым 120 тысяч хворых на алкагалізм і алкагольны псіхоз, сярод якіх больш чым 13 тысяч — жанчын. Разам гэта больш чым чвэрць мільёна чалавек. Ну, а насельніцтва ў краіне — дзесяць, можна сказаць, мільёнаў. Значыць, кожны саракавы жыхар краіны — наш пацыент. А колькі хворых на алкагалізм не ўзяты на ўлік? У шмат разоў больш. Так што, як бачыце, сітуацыя трывожная. Гэта вынік не толькі неадрэгуляванага продажу спіртных напояў. Мне думаецца, галоўная прычына ўсё ж сацыяльная, наша эканамічная неўладкаванасць і беднасць. А яшчэ — нізкая духоўная культура народа, яго агульны духоўны ўзровень, што задавальняецца часта самымі нізкімі патрэбамі, найперш — гэтым самым алкаголем. І практычна вельмі мала што робіцца па павышэнні гэтай культуры. Маю на ўвазе тут самыя розныя прафілактычныя мерапрыемствы. Алкагалізм, наркаманія, п'янства — гэта праблемы агульнадзяржаўныя, самым непасрэдным чынам звязаныя з праблемамі працоўных рэсурсаў, разбітых сем'яў, пакінутых дзяцей, дзяцей-алігафрэнаў. Хто калі ўвогуле падлічыў у нас страты, што прыносіць п'янства? Зрэшты, гэта, як і павышэнне культуры народа, праблемы не медыцынскія. Медыцына — толькі невялікі раздзел барацьбы з гэтым сацыяльным злом, а ў нас традыцыйна ўсе клопаты, звязаныя з п'янствам, найперш звальваюць на медыцыну. Каб хоць крыху закілзаць гэтага змея, зменшыць ягонае ўздзеянне на матэрыяльнае і духоўнае становішча народа, патрэбна адзіная дзяржаўная антыалкагольная палітыка і вынікаючыя з яе законы аб прафілактыцы п'янства і алкагалізму, аб рэабілітацыі алкаголікаў і наркаманаў,. аб папярэджанні і прафілактыцы гэтай сацыяльнашкоднай з'явы.

**— Алег Уладзіслававіч, а ці няма тут віны, так бы мовіць, і нашых народных традыцый? Так павялося ўжо, што пры любой нагодзе, вясёлай ці журботнай, народ наш бярэ чарку...**

— Традыцыі традыцыямі, але не ў іх галоўная прычына. Раней, дарэчы, народ гэтак не піў. Мы страцілі меру, адчуванне адказнасці перад сабой і перад нашчадкамі. Возьмем Захад. Людзі там шануюць сваё здароўе і калі ўжываюць спіртныя напоі, дык часцей за ўсё ў выглядзе лёгкага віна ці піва. А ў нас куляюць шклянкамі гарэлку, сівушную самагонку. Усё залежыць ад самога чалавека, ад ягонай выхаванасці, ад ягоных поглядаў на само ўжыванне спіртнога, на частату і дозу выпітага. У працэсе п'янства чалавек страчвае рэальнае разуменне каштоўнасцей, сапраўдную ацэнку рэчаў. Гэта страшна, калі ўсё ўспрымаецца, а ў выніку і вырашаецца, скажам так, праз бутэльку. Алкаголь зніжае разумовую патэнцыю чалавека, затуманьвае ягоныя мазгі, згладжвае перажыванні. Выпівоху здаецца, што такім чынам ён здымае свае жыццёвыя праблемы, аднак жа, працверазеўшы, ён бачыць, што праблемы тыя не толькі не зняты, але яшчэ больш абвастрыліся. Значыць, трэба зноў выпіць, каб пазбавіцца іх. І так з дня ў дзень. Калі чалавеку стрэсавую сітуацыю даводзіцца здымаць гарэлкай, чалавек гэты хворы, яго трэба лячыць.




*Малюнак А. ГУРСКАГА*

**— Даруйце, але калі бачыш каля піўных бочак ці ларкоў натоўпы відавочных алкаголікаў і алкаголічак, дык міжволі пачынаеш сумнявацца: ці лечацца яны? Ці прымушае іх хто-небудзь лячыцца?**

— А ці ведаеце вы, што ў сувязі з лібералізацыяй заканадаўства адносна алкагалізму накіраваць п'янтоса на лячэнне можна толькі па ягоным уласным жаданні? А большасць жа з іх сябе алкаголікамі не лічыць. Родзічы, калегі, суседзі просяць-моляць накіраваць на лячэнне таго ці іншага выпівоху, паспрабаваць ўратаваць яго ад пагібельнага скатвання ўніз, а выпівоха на ўсё гэта — адно: не жадаю, маю права піць, дэградаваць, паміраць, ніхто мне не ўказ. Толькі ўжо тады, калі п'яніца парушыць правы іншых і гэта будзе зафіксавана ў міліцыі, — толькі тады ён можа быць накіраваны на прымусовае лячэнне. Дарэчы, ЛПП у нас усяго два — у Светлагорску і Наваградку. Жаночага ЛПП наогул няма, як няма такой установы і для наркаманаў.

**— А дзе ж тады яны лечацца? Маю на ўвазе наркаманаў.**

— Самы небяспечны ў сэнсе размаху наркаманіі горад у нас — Светлагорск. Дарэчы, там і створаны добра аснашчаны наркалагічны дыспансер. У горадзе Гродне ёсць лабараторыя па эпідэміялогіі наркаманіі, наладжаны рэгістр (улік) спажыўцоў наркотыкаў на сучасным еўрапейскім узроўні. Увогуле ж у нас ёсць 13 спецыялізаваных наркалагічных дыспансераў і 17 псіхлячэбніц. Але што датычыць наркаманіі, дык яна лечыцца дрэнна, здымаецца толькі так званая "ломка".

**— Дрэнна лечыцца? Нават на самай ранняй стадыі?**

— На жаль, так. Галоўнае — папярэдзіць, не дапусціць такога захворвання, як наркаманія.

Нядаўна па дамоўленасці з Сусветнай арганізацыяй аховы здароўя да нас прыязджалі з Галандыі спецыялісты па барацьбе з алкагалізмам, наркаманіяй і курэннем. Спадзяёмся з іх дапамогай стварыць Спецыяльны рэабілітацыйны цэнтр для лячэння наркаманаў, якога мы з-за адсутнасці сродкаў дагэтуль не маем. У Навінках, што пад Мінскам, ёсць толькі невялікае аддзяленне па дыягностыцы наркаманіі. Тых, хто жадае лячыцца, тут жа і лечым, але апошніх вельмі мала.

**— Лічыцца, што наркаманія хвароба куды больш цяжкая, чым алкагалізм. Гэта праўда?**

— Так, наркаманія разбурае людзей найперш маладых, да 25—30 гадоў. Да старасці наркаман проста не дажывае. Дастаткова аднаго-двух гадоў ужывання наркотыкаў, каб надышла дэградацыя асобы з абрываннем сацыяльных сувязей, стратай працы і г.д. Значны працэнт іх, як, зрэшты, і алкаголікаў, канчае жыццё самагубствам. У аснове хваробы — псіхічная, псіхалагічная залежнасць чалавека ад наркотыка, які ўпачатку выклікае прыемныя адчуванні, пачуцці лёгкасці, палёту, добрыя эмоцыі. Але для дасягнення такога адчування ў далейшым кожны раз трэба павялічваць дозу наркотыка. Калі гэтай патрэбнай дозы няма, праз 12—18 гадзін наступае стан так званай наркатычнай абсцінэнцыі, адным з праяўленняў якой ёсць славутая "ломка". Гэта невыносны боль у суставах, касцях, настолькі моцны, што чалавек не знаходзіць сабе месца, круціцца, як уюн на патэльні. Такі стан можа доўжыцца 3—5 дзён. Першая ж ін'екцыя наркотыка адразу вяртае наркамана ў "здаровы" стан.

**— Калі ён перацерпіць "ломку", дык перастае быць наркаманам?**

— Калі ён яшчэ не страціў чалавечага аблічча, дык нейкі час можа кіраваць сабою і не ўжываць наркотыкаў. Але практыка паказвае, што самае нязначнае ўпамінанне пра наркотык зноў выклікае нястрымную прагу ўкалоцца. Звычайна гэтыя людзі ўжо ведаюць, у каго можна здабыць, купіць, зварыць свой "лек", атрымліваюць сваю дозу і працягваюць у "кайфе" ўсё сваё кароткае жыццё, бо, паўтараю, рэдка хто з наркаманаў дажывае да 40 гадоў.

**— Які ён, так бы мовіць, сацыяльны партрэт наркамана?**

— У наркатычны палон трапляюць самыя розныя людзі. Скажам, былыя спартсмены, якія не знайшлі сябе ў новым жыцці, дробныя бізнесмены, людзі, што выйшлі з месц зняволення, што не маюць акрэсленых жыццёвых пазіцый. Гэта пераважна мужчыны, але трапляюцца і маладыя дзяўчаты. Здараецца, што прыходзяць на лячэнне парамі, але гэта часцей за ўсё не шлюб па каханні, а дружба па няшчасці. Дзяцей у іх звычайна не бывае, а калі надараюцца, дык, як правіла, алігафрэны.

Наркаманія і алкагалізм — гэта хваробы асобы, а асоба, як вядома, фарміруецца найперш у сям'і, з самага ранняга дзяцінства. Нездарма, пэўна ж, наркаманамі і алкаголікамі становяцца дзеці, падлеткі з няпоўных сем'яў, адстаючыя вучні, што трапляюць у катэгорыю ізгояў, другагоднікаў, лайдакоў, на якіх махнулі рукой. Менавіта яны хутчэй становяцца на к[illegible]ях, бо з дзяцінства ў іх не былі выпра[illegible] станоўчыя жыццёвыя ўстаноўкі. А з[illegible] асалоду, задавальненне — гэта лёгкі шлях, дзе няма самадысцыпліны, няма валявых затрымак, няма самакантролю, дзе, аднак жа, няма і перспектыў.

Варта адзначыць і тое, што наркаманія — заразная ў тым сэнсе хвароба, што ў свае шэрагі наркаманы імкнуцца ўцягнуць — і, як правіла, уцягваюць! — як мага большую колькасць людзей. Часта першую дозу яны атрымліваюць бясплатна, а пасля, шукаючы грошай на набыццё наркотыку, прадаюць хатнія рэчы, закладаюць апошнюю маёмасць, ідуць нават на забойства, бо ўсё святое ў душы даўно прыспана і вынішчана.

**— Алег Уладзіслававіч, а як вы ставіцеся да модных цяпер экстрасенсаў, так званых народных лекараў, якія запрашаюць алкаголікаў, наркаманаў, заядлых курцоў наведаць іхнія кабінеты і прайсці там ананімнае лячэнне?**

— Неадназначна. Ёсць сярод іх людзі, якія добрасумленна жадаюць памагчы таму самаму алкаголіку, нават бясплатна. Часам яны выкарыстоўваюць прымітыўныя, наіўныя спосабы лячэння, хоць эфект можа быць і неблагі, — калі хворы паверыць і ў сябе, і ў свайго ўрача. Ну, а ёсць і звычайныя шарлатаны, халугі, якія на чужой бядзе прагнуць займець вялікія грошы.

У нас у Мінску, па вуліцы Някрасава, створана гаспадарча-разліковая амбулаторыя, дзе таксама хворыя лечацца ананімна — атрымліваюць тыя ж метады лячэння, што і ў наркадыспансерах. Там працуюць кваліфікаваныя ўрачы-псіхатэрапеўты. Дзеля чаго створана такая амбулаторыя? Бачыце, ёсць людзі, якія, як кажуць, паслізнуліся, хочуць вылечыцца, але каб не засвяціцца, яны не хочуць станавіцца на наркалагічны ўлік, бо апошняе можа прывесці да розных непрыемных наследкаў. Вось яны і ідуць у кабінеты ананімнага лячэння. Але я хачу яшчэ раз падкрэсліць, што і там ніколі не будзе станоўчага эфекту, калі чалавек не будзе сам старацца вылечыцца. А ён зможа зрабіць гэта толькі тады, калі зразумее, што ён хворы на алкагалізм ці наркаманію. Каб ён зразумеў гэта, з ім трэба шмат папрацаваць і родзічам, і ўрачам, і сябрам. Асноўная мэта лячэння алкаголіка — зрабіць яго цвярэзнікам. Палавінчатых рашэнняў тут не бывае, спадзявацца на тое, што алкаголік будзе піць умеру, нельга. Алкаголік аднойчы — алкаголік заўсёды. Алкагалізм — хвароба злаякасная, яна прагрэсіруе, стан хворага з цягам часу пагаршаецца, з'яўляюцца звязаныя з алкагалізмам хваробы сэрца, печані, падстраўнікавай залозы. А, галоўнае, хвароба прыводзіць да дэградацыі асобы, духоўнага атупення яе.

Падсумоўваючы, скажу, што алкагалізм, наркаманія — гэта вялікая наша бяда, я сказаў бы — нацыянальная трагедыя. Яе трэба адольваць усім нам разам, усім народам. Але без актыўных фінансавых уліванняў у развіццё служб па барацьбе з гэтай бядою, без павышэння культуры насельніцтва, без прапаганды цвярозага, здаровага ладу жыцця ўсімі сродкамі масавай інфармацыі, без растлумачальнай, выхаваўчай работы з дзецьмі з самага ранняга ўзросту, без выхавання нецярпімасці, адмоўных адносін да п'янства, алкагалізму і наркаманіі перамагчы гэтую бяду нельга...

*(Працяг на стар. 12)*

кнізе інтэлектуальна-філалагічны ўхіл. Ведае Алесь Пашкевіч і залатую лаціну, і трубадурска-рыцарскія звычаі і аксесуары, і тэорыю вершаскладання... У радках яго вершаў можна знайсці нават такія тонкія рэмінесцэнцыі, што, разгадаўшы іх, і сам сябе пахваліш, і аўтара "запаважаеш" за інтэлект:

**А ўнізе наіўныя людзі**
**У ноч пасылаюць дазоры.**

Гэта намёк на "Начны дазор" Рэмбранта.

З другога боку, паэт нязмушана (а дзе і змушана) аздабляе свае вершы прыгожымі і малаўжыванымі формамі ("шукацьме", "прыбівацьме", "самотлівы", "стыглі"), слоўцамі-дыяментамі ("кунега", "гарчакі", "вохкія", бляск якіх "сэрэдні" чытач бачыць, сэнсу ж — "не вем"...) Што вялікі плюс паэту — што ён не педаліруе ні сваю інтэлектуальнасць, ні народнасць, хаця і жаліцца: "Эх, навошта падарыла маці мудрасць маёй юнай галаве". І такі шлях — памяркоўнага сінтэзу — прадстаўляецца мне найбольш плённым у сённяшніх варунках.

## 6. ПРА ПАНТЭІЗМ І ПРА КАХАННЕ

Як вядома, пантэізм ёсць уласцівасць беларускай ментальнасці. І ўжо як не выказаць яго маладым паэтам-адраджэнцам у лепшых рамантычных традыцыях! Ды цяжка абагаўляць тое, чаго не ведаеш... У "Нябеснай сірвенце" беларускі бог — Прырода — не нешта абстрактнае ды ўзнёсла-рамантычнае. Калі ўвогуле вобразы Алеся Пашкевіча вылучаюцца імпрэсіяністычнай яркасцю фарбаў ды хварэюць на недакладнасць, сярод вобразаў, звязаных з канкрэтнымі прыроднымі з'явамі, выпадковых няма — ёсць нечаканая дасціпнасць: званочкі сапраўды "пазяхаюць", драч "рве палотны", у вярбы "гнуткае лісце"...

Гэтак жа вылучаюцца ў зборніку вершы пра каханне.

Алесь Пашкевіч умее пісаць вершы пра каханне.

Вы думаеце, гэта лёгка? Гэтак жа, як утрымацца на лязе густу паміж модпай "крутой" эротыкай і безаблічным "каханнепрызнаннем".

Бяру на сябе смеласць сцвярджаць, што вершы пра каханне ўмее пісаць мала хто з нашых паэтаў.

Такім чынам, прыходзіш да высновы, што натуральна паэт гаворыць пра натуральнае, і ёсць у гэтым, можа, неасэнсаваная схільнасць менавіта да традыцыйнай паэзіі — без дахаў, якія "грызуць неба", і "хіпаватых парасонаў".

## 7. ЯШЧЭ РАЗ ПРА БЕЛАРУСКІ МАЗАХІЗМ

Нашай літаратуры ўласцівы рамантычны мазахізм, звязаны з каханнем-пакутай да Радзімы-жанчыны, каханнем часта неразздзеленым, але ад таго яшчэ больш балючым і высакародным.

Матыў гібелі за Радзіму, выгнання-блукання, пакутніцтва выказаны і ў "Нябеснай сірвенце". Адметнасць жа яго ў кантэксце зборніка ў тым, што паэт надае пакутніцтву характар гераічны, змагарскі, рыцарскі. Сірвента — песня на ваяцкі лад: вой гіне, але застаецца непераможаным. Можа, па маладосці сваёй, а можа, па характары паэт не лічыць патрэбным адпяваць зажыва сябе і свой народ, хаця і аддаў даніну гэтай традыцыі ў вершы "Жалейка"...

Вось такія рэфлексіі пасля прачытання зборніка... Ці можна іх назваць рэцэнзіяй? Няхай гэта будзе лепш правакацыяй у адрас чытача — каб захацеў прачытаць сам ды займець уласнае меркаванне.

---

пра родныя мясціны, калі аўтар адбываў ссылку ў Сібіры.

Увогуле, Язэп Лёсік — майстар сацыяльна-бытавога апавядання. Сфера яго эстэтычнага асваення — паўсядзённасць, у якой цесна пераплецены камічнае і драматычнае, нізкае і высокае.

Сабраныя ў зборніку артыкулы характарызуюць Лёсіка як актыўнага і таленавітага публіцыста. Ён звяртаўся да праблемы нацыянальнага самавызначэння беларусаў, да пытанняў палітычнага, эканамічнага і культурнага развіцця грамадства. Многія думкі пісьменніка не страцілі сваёй актуальнасці і сёння: "Пара ўжо ўсвядоміць, што нацыянальна несвядомы народ — грамадзянска цёмны народ; гэта тая каламутная вада, у якой спрытныя людзі ўмеюць рыбку лавіць", "І дзіўная звычка ў людзей спасылацца на народ там, дзе яно саўсім недарэчы".

Бясспрэчна, выдадзены ў серыі "Спадчына" зборнік твораў Я. Лёсіка вяртае з літаратурнага забыцця імя гэтага своеасаблівага пісьменніка і пашырае ўяўленні аматараў мастацкага слова пра беларускую празу і публіцыстыку пачатку XX стагоддзя.

**Ванда БАРОЎКА,**

**кандыдат філалагічных навук**

*г. Віцебск*

---

Віншуем!

# СЛУГАВАННЕ РОДНАМУ СЛОВУ

## Анатолю КЛЫШКУ — 60



Талент і праца заўсёды побач. У жыцці Анатоля Клышкі таксама. Ён заўсёды ў пошуку, заўсёды ў працы. Гэтага патрабуе яго самабытная асоба з абвостраным грамадзянскім пачуццём, глыбока ўсвядомленая неабходнасць служыць свайму народу. Адсюль і велізарная шматграннасць яго творчых зацікаўленняў. Крытык і перакладчык, паэт і празаік, літаратуразнавец, публіцыст, нарысіст, педагог, аўтар падручнікаў і дапаможнікаў для настаўнікаў. Як на аднаго чалавека, дык і многа. Але, здаецца, яму ўсё падуладнае, ён усё можа. Ды гэта толькі здаецца. Думаеце, вельмі хочацца так цяжка, так напружана, з дня ў дзень, без выхадных-прахадных працаваць?! Не. Але талент не дае спакою, бурлівая думка не дае спакою, сотні новых, свежых, арыгінальных ідэй, якіх у А. Клышкі поўная галава, заўсёды не даюць супакоіцца, катурхаюць, будзяць, прымушаюць да дзеяння, да рэалізацыі задуманага-надуманага. Таму і зроблена так многа.

Ужо аднаго "Буквара", які выдаецца штогод з 1969 года (унікальны прэцэдэнт у нашай культурнай спадчыне, у педагагічнай практыцы), па якім вучыцца ўжо столькі пакаленняў беларусаў, які на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі ў Маскве каліcь быў узнагароджаны сярэбраным медалём, а на Міжнародным кірмашы ў Лейпцыгу адзначаны залатым, хапіла б, каб імя А. Клышкі засталося ў гісторыі нашай педагогікі і культуры. Але праца над "Букваром" не спыняецца. Кніжку аўтар папраўляе, удасканальвае, паляпшае. Таму нядаўна на закрытым конкурсе яна зноў стала пераможцай. А мо дасюль у душы Анатоля Канстанцінавіча гучаць тыя словы высокай ацэнкі, якія калісь сказаў на абмеркаванні ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі Янка Брыль, чыё слова А. Клышка цэніць таксама вельмі высока: "Я хацеў бы вярнуцца ў маленства, каб вучыцца па гэтакім буквары".

"Буквар" А. Клышкі даходлівы, даступны для малых чытачоў, якія толькі пачынаюць спазнаваць грамату, літары, склады, словы, сказы. Ён змястоўны, цікавы, эмацыянальны. Ён першы сябар і дарадчык, ён — збор неабходных звестак пра сям'ю, родную хату, усё вакол яе, дзіцячыя гульні, школу, родны край. І ўсё гэта праз роднае слова, слова свежае, прачулае, прыгожае; слова, якое сапраўды ідзе з глыбінь народных. Колькі тут выкарыстана фальклорных багаццяў: казкі і лічылкі, скорагаворкі і прыказкі, загадкі, якія развіваюць вобразнае мысленне малечы, розныя займальныя і гумарыстычна-жартоўныя практыкаванні. Кожны тэкст — неспазнаны свет, які раскрываецца перад дзяўчаткамі і хлопчыкамі, узбагачае іх, пашырае іх кругагляд, веды, несучы адначасна і эстэтычную, і пазнавальную, і выхаваўчую нагрузку.

Слова — заўсёднае і найбольшае захапленне А. Клышкі. Уся яго творчасць арганічна, глыбока звязана з родным словам. Любоў і павага, шчырыя пашанота да роднага слова найперш у яго ад маці, Алесі Сцяпанаўны, вядомай у наваколлі роднай вёскі Данейкі, што ў Баранавіцкім раёне Брэсцкай вобласці, спявачкі, ад якой Анатоль, усвядоміўшы, адчуўшы з маленства прыгажосць нашай песні, зрабіў шматлікія запісы, збярогшы для нашчадкаў неўмiручыя скарбы народнай паэзіі, залатыя россыпы народнага слова; ад бацькі, ад якога часта чуў слова трапнае, гаваркое, яркае, вымоўнае, ад шчырай, шматфарбнай, крамянай, пявучай гаворкі аднавяскоўцаў, суседзяў блізкіх і далейшых. Слова лучыць, яднае, звязвае А. Клышку з народам, з яго шматвяковай гісторыяй, якую ён выдатна ведае, са шматвяковымі, адвечнымі традыцыямі, яно поіць яго сокамі роднай зямлі, наталяе духоўную смагу.

Сваю любоў да роднага слова А. Клышка, які спецыяльна працаваў у школе, каб на практыцы праверыць, ці працуе яго "Буквар", ці даносіцца да дзяцей тое, што задумана аўтарам, спрабуе рознымі спосабамі перадаць найперш дзецям. Таму і напісаў ён для дадатковага чытання ў букварны перыяд кніжку "Верасок", склаў чытанку для 4-га класа "Чабарок". Гэта добрыя дарадчыкі не толькі для малых, але і для настаўнікаў і бацькоў. Для дзяцей ён спецыяльна задумаў і напісаў выдатную працу пра тое, як да нас прыйшло фенаменальнае вынаходніцтва чалавецтва, цуд, прыйшла кніга — мастацкі нарыс "Францыск Скарына". Як праходзіла гэтая бяскрыўдная, "апалітычная" кніга ў друк, могуць засведчыць тыя 17 старонак тлумачэнняў, якія давялося напісаць, каб даць адказы на бязглуздыя прычэпкі цэнзуры, бо знайшлі да чаго прычапіцца і там, дзе пра нейкую дзяржаўную таямніцу і не ўспаміналася, бо яе ў кніжцы пра кнігу, пра нашага славутага гуманіста-асветніка, першадрукара Ф. Скарыну і быць не магло. Тым не меней...

Дзеткам-дашкольнікам і малодшым школьнікам А. Клышка падараваў кніжкі "У лясах Белавежы", "Самая лепшая хатка", "Вярэнька загадак". У нашай дзіцячай літаратуры яны вылучаюцца найперш глыбокім веданнем псіхалогіі таго чытача, на ўзрост якога яны разлічаны. Па-другое, выдатным адчуваннем, як трэба пісаць, каб зацікавіць малечу, а будзіць думку, фантазію, цікаўнасць дзетак, "прымусіць" палюбіць нашу чароўную, прыгожую прыроду, яе жывёльны свет, здолець пагаварыць з дзятвою іх моваю, данесці да іх узроўню мыслення тое, пра што сабраўся расказаць, захапіць свайго маленькага чытача, трымаць яго ўвагу, не даць засумаваць. А для гэтага трэба і слова адпаведнае знайсці, і сюжэт, і адпаведны настрой, інтанацыю. Пачытайце гэтыя яго кніжачкі і на свае вочы ўбачыце, што я кажу праўду. Многім сучасным пісьменнікам, якія пішуць для дзяцей, ох як варта было б уважліва, можа, нават з алоўкам у руках, пачытаць гэтыя Клышкавы творы, каб павучыцца пісаць для дзяцей так, як для дарослых, толькі яшчэ лепш.

Клопат пра культуру мовы, пра наша Адраджэнне вымусіў А. Клышку стварыць такую неабходную працу, як "Чытаем і гаворым па-беларуску", якая друкавалася ў "Маладосці", а неўзабаве пашыраная, дапрацаваная павінна выйсці асобнаю кніжкаю. Яна вельмі патрэбна нават тым, хто беларускую мову ведае. Тым жа, хто яе вывучае, хто хоча спазнаць яе смак, водар, спецыфіку, адметнасць і самабытнасць, проста тройчы неабходная як дапаможнік, які павінен заўсёды быць пад рукою. Тым больш, што наша радыё і тэлебачанне апошнім часам выдае і пашырае такую трасянку, такую непісьменнасць, такі валапюк і ў вусных рэпартажах некаторых журналістаў і нават у тых матэрыялах, якія рыхтуюцца загадзя, рэдагуюцца, а пасля ў эфір чытаюцца з ліста дыктарамі, вядучымі розных перадач, што ажно вусцішна становіцца. Гэта праца А. Клышкі прыдалася б тут як найлепш. Трэба толькі мець жаданне пастаянна вучыцца, павышаць культуру і пісьмовага тэксту і маўлення.

Асобная і не менш значная дзялянка творчай працы А. Клышкі — пераклады. Слугаванне роднаму слову, выпрабоўванне яго патэнцыяльных мажлівасцей, імкненне даказаць і паказаць на практыцы, што нашаму слову пад сілу любыя, і высокія, узнёслыя, і нізкія, прыземленыя стылі, любыя пласты лексічныя і сінтаксічныя, любое выказванне — адна з задач перакладчыцкай дзейнасці А. Клышкі. З нямецкай мовы ён дасціпна-гумарыстычна "збаяў" па-беларуску казкі "Шыльдбюргераў", са старагрэцкай пераклаў "Дафніса і Хлою" Лонга — адзін з найпершых раманаў у еўрапейскай літаратуры пра каханне, паспрабаваў перадаць па-нашаму ўрыўкі з "Адысеі" Гамера,ператварыў па-беларуску Евангелле, з Латыні — эпіграмы В. Марцыяла, з польскай — апавяданні і вершы Э. Кабаца, Я. Гушчы, С. Дабравольскага, Л. Прорака і інш. Падкрэслім, што пераклады А. Клышка робіць не праз мову-пасрэдніцу, а з арыгінала, бо ведае шмат моў. І гэтыя высокапрафесійныя пераклады і выдатны Клышкаў "Беларуска-польскі размоўнік" (1992), які, на жаль, дасюль па-сапраўднаму ніхто і не ацаніў у нашай прэсе, працуюць на наша Адраджэнне, на нашу мову, уздымаючы яе прэстыж, паказваючы яе велізарныя мажлівасці, на нашу культуру.

Чытач добра ведае А. Клышку як тонкага, удумлівага, вострага крытыка, памятае яго кніжку "Права на верш". Яго крытычныя працы напісаны з такім майстэрствам, з такой доказнасцю, што чытач ім поўнасцю давярае. Характэрная іх рыса — вышыня эстэтычных крытэрыяў, патрабавальнасць, тактоўнае стаўленне да пісьменніка, уважлівыя адносіны да творчасці кожнага мастака слова, добразычлівасць, уменне ўбачыць, ацаніць пошукі і здабыткі кожнай творчай індывідуальнасці. Хоць часам даводзіцца быць і вельмі прынцыповым і бескампрамісным. Успомніце яго артыкул "За мухай — з абухам", дзе, ацэньваючы развіццё такога жанру ў нашай літаратуры, як байка, А. Клышка вымушаны быў пісаць пра сатыру сатырычна, іранічна, саркастычна, з'едліва, нават бязлітасна. Тым не менш і такія выступленні крытыка выхоўваюць густ чытачоў, выкараняюць у літаратурным жыцці спекулятыўную, прыстасавальніцкую мараль, вучаць не зніжаць крытэрыяў пры ацэнцы літаратурных твораў, як твораў мастацтва, з'яў эстэтычных.

Мне вельмі падабаецца, як А. Клышка разглядае канкрэтныя вершы. Успомнім, як ён прааналізаваў "Слуцкія ткачыхі" (у кніжцы "Права на верш"), "Пагоню" (у часопісе "Беларуская мова і літаратура ў школе"), "Паслухайце, вясна ідзе..." М. Танка (у "Дні паэзіі") — з такою ўвагаю да самых найдрабнейшых элементаў формы (рыфма і рытм, асанансы і алітэрацыі, інтанацыя, апорныя словы ў радку і інш.), з такім уменнем паказаць іх узаемасувязь, узаемадачыненне ў паэтычнай сістэме верша, што настаўніку застаецца толькі данесці гэта да вучняў. Такія прафесійныя артыкулы ў нашай крытыцы здараюцца не часта. Таму чытач, найперш настаўнік і сумуе па крытычных выступленнях А. Клышкі. Каб чытача крыху абнадзеіць, з радасцю выдам тут рэдакцыйную таямніцу — у выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя" рыхтуецца своеасаблівая школьная энцыклапедыя "Беларуская літаратура" ў адным томе. У ёй сцісла ўпершыню ў нашай энцыклапедычнай справе будуць аналізавацца канкрэтныя творы нашай літаратуры (вершы, апавяданні, паэмы, аповесці, раманы, п'есы і г. д.). А. Клышка піша для гэтага выдання артыкулы пра творы М. Багдановіча, Я. Купалы, В. Таўлая, М. Танка, П. Броўкі і інш.

Крытык, каб быць на ўзроўні часу, павінен пастаянна ўзбагачаць свой тэарэтычны патэнцыял, глыбей спазнаваць жыццё і літаратуру, грунтоўна ведаць сусветную мастацкую творчасць, павышаць сваё майстэрства. Адным словам, працаваць над сабою. А. Клышка ўвесь час у гэтым самаўзбагачэнні, на нашу, як чытачоў, карысць. Ён пастаянна вучыцца, каб перадаць пасля ўсё гэта нам. Гляньце, колькі цытат у яго артыкулах, і пацвердзіце, што ён вучыцца ўвесь час, шмат чытае, думае. Нават апошняя наша нядаўняя сустрэча, калі ён як член Тэрміналагічнай камісіі "Беларускай энцыклапедыі" прынёс да нас свае прапановы па ўдасканаленні напісання некаторых замежных геаграфічных назваў, у прыватнасці польскіх, вылілася ў гаворку пра роднае слова, яго сінанімію, нюансы, значэнні, адценні, бо А. Клышка рыхтуе да друку Евангелле і штодзённа робіць нялёгкія зверкі з самым аўтарытэтным выданнем нямецкіх біблеістаў. А восенню ідзе ў друк яго "Ілюстраваны слоўнік беларускай мовы" (у Беларусі зроблены ўпершыню). Ён думае пра новы раздзел у працы "Чытаем і гаворым па-беларуску". Ёсць і іншыя планы, клопаты.

"Ніхто не зробіць за цябе. У тваёй бацькаўшчыне кожны свядомы чалавек на ўліку", — думае А. Клышка разам з М. Багдановічам у кнізе "Права на верш". Так яно не толькі было, але так яно ў нас і цяпер. На ўліку, на пасту ў Бацькаўшчыне такі свядомы працаўнік, адраджэнец, сапраўдны, адданы сын свайго народа, як Анатоль Канстанцінавіч Клышка.

Дай, Божа, яму здароўя, сіл, гадоў плённых, каб распачатае дарабіць, задуманае — здзейсніць, чаканні шматлікіх удзячных чытачоў — спраўдзіць.

**Янка САЛАМЕВІЧ**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ВЫСТАВА ЮНЫХ МАСТАКОЎ



У культурным цэнтры Фонду Рэрыхаў у Мінску адкрылася выстава работ вучняў 8-х класаў сярэдняй школы N 147. Ужо год у школе працуе майстэрня лакавага мініяцюрнага жывапісу. Вядзе заняткі мастак Уладзімір Фёдаравіч Авечкін. Юныя жывапісцы вучацца працаваць у манеры лакавай мініяцюры Палеха. Прадаўжаючы і развіваючы традыцыі вядомых майстроў, педагог, навучаючы дзяцей тонкасцям лакавага роспісу, уносіць у палехскі роспіс беларускія матывы. Юныя жывапісцы з захапленнем спасцігаюць тайны майстэрства. Пра гэта сведчаць і іх дзівосныя работы.

*На здымку: у час адкрыцця выставы. Педагог У. Ф. Авечкін з юнымі мастакамі.*

*Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ,* БЕЛІНФАРМ

## "МАСТАЦТВА ДЛЯ МЯНЕ — РАЗВАЖАННЕ..."

Кусум Шукла, жонка пасла Індыі ў Беларусі, вядомая мінскаму гледачу па сваёй першай выставе ў Нацыянальнай мастацкай галерэі (снежань 1993 г.). Тым разам мастачка прадставіла свае ранейшыя работы — жывапісныя імпрэсіі, падуладныя старажытнай усходняй філасофіі і нацыянальнай індыйскай рытміцы колеравых спалучэнняў. Яе работы характэрныя для светаадчування народа, падпарадкаваўшага сваё мастацтва сістэме ўзыходжання чалавека да дасканаласці духа. Рух да нечага вышэйшага, бажаства, якое сімвалізуе для мастачкі надзею, — аснова яе творчасці.

А нядаўна ў Нацыянальным мастацкім музеі адкрылася новая выстава Кусум Шуклы. Карціны, прадстаўленыя на ёй, створаны на працягу двух год знаходжання ў Мінску. Яны — колеры тых уражанняў, што перажыла мастачка ў невядомай ёй раней краіне, такое незвычайнае для нашага грамадства разуменне Беларусі праз духоўную аўру сяброўства, узаемаразумення і павагі.

Уладальніца дыплома фізіка, Кусум Шукла пачала маляваць у 1977 г. Яе работы можна ўбачыць у асабістых калекцыях эміра Катара, а таксама сяброў з Даніі і Індыі.

Н. Ш.

## СВЕТ ГАРМОНІІ



У Рэспубліканскай мастацкай галерэі ў Мінску адкрылася выстава работ мастака Рыгора Іванова пад агульнай назвай "Свет ачага".

— Для мяне жывапіс, — гаворыць мастак, — гэта сувязь з тым, што было, ёсць і будзе. Я ў сваім жывапісе спрабую зафіксаваць момант судакранання розных часоў, светаў і народаў.

Карціны Рыгора Іванова — гэта яшчэ і свет любові, чысціні, цяпла і гармоніі колеру, святла, ліній.

Яговыя работы ёсць у прыватных галерэях і калекцыях Польшчы, Германіі, Швецыі, Ізраіля, ЗША, Італіі, Беларусі, Паўднёвай Карэі.

*На здымку: мастак Рыгор Іваноў у час адкрыцця сваёй персанальнай выстаўкі.*

***Здаецца, беларускага слухача ўжо можна назваць дасведчаным у праблемах старажытнай айчыннай музыкі. Чатыры фестывалі "Адраджэнне беларускай капэлы", якія прадставілі шырокую гістарычную панараму нашай музычнай мінуўшчыны, адпаведныя публікацыі ў газетах і часопісах, радыё – і тэлеперадачы пацвярджаюць: Беларусь мае вялікую культурную спадчыну і толькі па гістарычнай недарэчнасці мы ад гэтай спадчыны адмаўляліся. Відаць, усяму свой час, і цяпер ужо кампазітары, творчасць якіх вельмі доўга прылічвалася да набыткаў польскай ці расійскай культуры, "вяртаюцца на радзіму". І, думаю, нікога з тых, хто наведаў канцэрты фестывалю, наладжанага аб'яднаннем "Беларуская Капэла" да 230-годдзя Міхала Клеафаса Агінскага, ужо не здзівіла адносная новая інфармацыя. І тое, што ён — буйны беларускі кампазітар і палітычны дзеяч, і тое, што ягоныя вакальныя творы загучалі па-беларуску...***

# МІХАЛ АГІНСКІ: СУСТРЭЧА З РАДЗІМАЙ

ЗГАДКІ ФЕСТЫВАЛЮ

ШЧЫРА КАЖУЧЫ, нячаста нашы філарманічныя залы прымаюць такі натоўп слухачоў, які быў падчас фестывалю музыкі Агінскага. Безумоўна, вялізная цікавасць да мастацкай дзейнасці чалавека, чыё імя цесна звязана ва ўспрыманні абсалютнай большасці культурнага чалавецтва, на жаль, толькі з адзіным творам (славутым паланезам), прывяла на фестывальныя канцэрты тых, хто жадаў пазнаёміцца з усёй вядомай на гэты час спадчынай кампазітара. Тры фестывальныя канцэрты прадставілі тры плыні творчасці Агінскага: тэатральную, вакальную і фартэпіянную. Вядома, што, акрамя амаль што 40 фартэпіянных, 17 вакальных твораў, оперы "Зеліс і Валькур, ці Банапарт у Каіры", кампазітар пакінуў і балет, які лічыцца згубленым (можа, нават, ён так і не быў напісаны, але кампазітар згадвае яго ў сваіх лістах).

Аднаактовы балет "Паланез" на музыку Агінскага, прадстаўлены на фестывалі, кампазіцыйна яму не належыць: у аснове — выбраныя творы Міхала Клеафаса для фартэпіяна (аркестраваў вядомы кампазітар Вячаслаў Кузняцоў). Сама драматургічная ідэя балета належыць дырэктару "Беларускай Капэлы" кампазітару Яўгену Паплаўскаму. Пастаноўку ажыццявіла таленавіты спецыяліст Галіна Сінельнікава з навучэнцамі Беларускага харэаграфічнага вучылішча. Балет "Паланез", прэм'ера якога адбылася 14 лютага, не мае драматургічнага стрыжня, літаратурнага зместу. У аснове спектакля — ідэя прыгажосці. Пластычная мова танца вынікае з музычнай інтанацыі, з'яўляючыся харэаграфічным увасабленнем музычнага вобраза.

Спектакль "Паланез" зачараваў гледачоў: па-рыцарску галантныя юныя кавалеры са сваімі грацыёзнымі какеткамі-прыгажунямі, цудоўныя сольныя нумары (немагчыма не ўшанаваць зорачку-салістку Ірыну Цымбал), выразныя мізансцэны, вельмі высокі ўзровень выканання юных артыстаў, агульны сентыментальна-меланхалічны характар спектакля (што вынікае з музыкі Агінскага) увогуле ўспрымаліся як цудоўная пластычная паэма аб прыгажосці й каханні. На сцэне правіла баль прыгажосць, маладосць і натхненне — музыканты, якія ўдзельнічалі ў спектаклі, — гэта ўжо шырокавядомы Камерны аркестр ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам Уладзіміра Перліна з салісткай Дашай Бельцоковай (флейта). Сапраўды, музычная сталасць гэтага калектыву перавышае майстэрства сяго-таго з "дарослых" аркестраў і вызначае еўрапейскае прызнанне, якое набыў аркестр за час свайго існавання з 1989 года.

Як тэатр пачынаецца з вешалкі, так першы фестывальны канцэрт — з прадмовы. Але якімі словамі распавядаць пра чалавека, што ўсё жыццё прысвяціў сваёй зямлі ды яе люду? Адзіны шлях — вершамі! Натхнёна, узнёсла, урачыста-ўсхвалявана — так, як гэта зрабіла Вольга Дадзіёмава. Яе прадмова — не, хутчэй ода Міхалу Клеафасу — адразу прынесла ў залу адчуванне свята, якое неўзабаве адбылося на сцэне... Пасля падумалася, што шлях тэатралізаваных канцэртаў, аб-



*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Віктар СКОРАБАГАТАЎ.*

раны "Беларускай Капэлай" у правядзенні сваіх імпрэз, вылучае іх з агульнага канцэртнага жыцця і вельмі прываблівае наведвальнікаў капэлаўскіх канцэртаў, як і заўсёды багатая інфармацыя пра кампазітараў ды іх музычна-гістарычнае асяроддзе.

КАНЦЭРТ з вакальных твораў М. Кл. Агінскага быў надзвычай цікавы ўжо таму, што рамансы кампазітара ўвогуле найменш вядомая старонка ягонай спадчыны — нават для музыказнаўцаў. Пакуль яшчэ няма навуковай працы, прысвечанай рамансам Агінскага з вызначэннем іх месца й ролі ў развіцці гэтага жанру ў сусветнай музычнай культуры. Але ўжо відавочна, што яны зрабілі значны ўплыў на развіццё як еўрапейскага, так і рускага рамансa. Так, напрыклад, раманс "Абуджэнне", які больш выдае на оперную арыю з рэчытатывамі і развітай каларатурай, у сваёй пабудове й нават інтанацыйна нагадвае знакамітую арыю Ленскага з "Яўгенія Анегіна" П. Чайкоўскага, але напісана "Абуджэнне" амаль на паўвека раней! Гэтае параўнанне, пра якое мы не знойдзем ніводнага слова ў музычна-навуковай літаратуры, належыць мастацкаму кіраўніку "Беларускай Капэлы" спеваку Віктару Скорабагатаву; ён зрабіў і шэраг іншых цікавых назіранняў у гэтай галіне творчасці Агінскага.

Рамансы Агінскага пераважна невялікага памеру, маюць меланхалічна-сентыментальны характар, напісаны для выканання ў свецкіх салонах, таму найбольш істотным іх адрозненнем з'яўляецца прастата кампазіцыі. Але сяды-тады Агінскі адыходзіць ад гэтага прынцыпу, як, напрыклад, у рамансах "Абуджэнне", "Родная вёска", "Асенні дзень", "Змоўкні, ах, змоўкні", драматычны характар якіх нагадвае творы Казлоўскага, Гурылёва, Шумана, нават — як ужо было сказана — Чайкоўскага.

Істотна наватарскімі для еўрапейскай музыкі з'яўляюцца два вакальныя паланезы "Вы, хто ў літасць поўніць душы" ды "Багацце мецць ужо знікла ахвота". Гэтыя паланезы — узор стварэння вакальна-фартэпіяннага сінтэзу, дзе абедзве партыі — на вядучых ролях, таму тут нельга дакладна акрэсліць жанр: фартэпіянная п'еса са спевамі ці раманс з развітай фартэпіяннай партыяй. Да таго ж, можна гаварыць пра своеасаблівы міні-цыкл з агульнай танальнасцю і фартэпіяннай пастлюдыяй з першага паланеза пасля заканчэння другога. Заўважу, што падобныя прыклады вакальнай мініяцюры ёсць у творчасці польскіх кампазітараў, у прыватнасці, Марыі Шымаnоўскай (паланез для спеваў "З высокіх Парнасаў"), якая, паводле ейнага прызнання, знаходзілася пад вялікім уплывам музыкі Агінскага і лічыла яе "вышэйшай за ўсіх". У жанры застольнай песні напісаны раманс "Любна ў сядзібе цнотнае пары", урачысты настрой якога ўзмацняецца невялічкім заключным хорам.

Агінскі пісаў рамансы пераважна на французскія ці італьянскія тэксты, ёсць і некалькі на польскай мове. Аўтары тэкстаў у асноўным невядомыя, але ёсць падставы лічыць, што частку рамансаў Агінскі напісаў на ўласныя вершы. Вялікую працу па перакладах тэкстаў з польскай на беларускую мову ды іх кантамінацыі зрабіў Уладзімір Мархель. Дарэчы, амаль усе вернутыя на радзіму вакальныя творы нашых славутых землякоў — С. Манюшкі, В. Казлоўскага, Міхала Казіміра і Міхала Клеафаса Агінскіх ды інш. — гучаць па-беларуску ў ягоных перакладах. І калі слухаеш гэтыя рамансы, немагчыма сабе ўявіць, што яны напісаны на іншамоўныя тэксты — бо так арганічна й натуральна гучаць яны ў перакладах У. Мархеля.

Што ж да канцэрта вакальнай музыкі



*Лаўрэат міжнародных конкурсаў Рыгор ПАЛІШЧУК.*

Агінскага, дык нават самае прыдзірлівае вуха знайшло тут для сябе асалоду. Рознасць жанраў, чарграванне галасоў нашых вядомых салістаў — заслужанай артысткі Беларусі Тамары Пячынскай (меццa-сапрана), лаўрэата нацыянальнага конкурсу Алёны Бундзелевай (сапрана), лаўрэата міжнародных конкурсаў Рыгора Палішчука (тэнар) ды заслужанага артыста Беларусі Віктара Скорабагатава (барытон) зрабілі гэты канцэрт вельмі цікавым і разнастайным. Чуйны слых улоўліваў усялякія музычныя асацыяцыі: ад песень Шуберта да інтанацый таго раманса, які пазней быў названы "жестоким" (успомнім раманс "Каля цябе" з "жорсткім" надрывам у пачатку). Разнастайнасць гэтаму канцэрту надала і цікавая знаходка піяністкі Ганны Каржанеўскай ды флейтыста Уладзіміра Бурага, якія некалькі рамансаў суправаджалі дуэтам клавесіна і флейты. Дарэчы, гэта цалкам у рэчышчы традыцыі салоннага выканання, дзе ўжываліся рытурнелі духавых і струнных інструментаў пры выкананні вакальных твораў з фартэпіянным акампанементам.

Наогул, канцэрты з твораў кампазітараў XIX стагоддзя, якія ладзіць "Беларуская Капэла", больш падобныя да салонных "вечарын", дзе публіка нагадвае гасцей, а выканаўцы — зычлівых гаспадароў. Няўдзячная справа — апісваць атмасферу гэтых канцэртаў: лепш асабіста завітаць на такую "вечарыну"...

ВЯЛІКУЮ СЛАВУ яшчэ пры жыцці кампазітара яму прынеслі паланезы для фартэпіяна, якія ён пачаў пісаць на пачатку 1790-х гадоў. Яны адразу ж зрабіліся вядомымі публіцы і вельмі папулярнымі, таму што, як пісаў кампазітар, "яны могуць, захоўваючы свой нацыянальны характар, спалучаць у сабе напеўнасць, выразнасць і густ". Але захапленне паланезамі Агінскага ў еўрапейскіх салонах было абумоўлена й тым, што яны былі, бадай, першымі творамі ў гэтым жанры, якія прызначаліся ўжо не толькі для танцаў, але ў большасці сваёй выконваліся як канцэртныя п'есы. (Нагадаю, што сам Агінскі ў "Лістах пра музыку" падкрэсліваў гэтую рысу сваіх танцавальных п'ес "не для танцаў"). У гэтых опусах можна нават заўважыць рысы рамантычных жанраў, такіх, як элегія, балада, накцюрн, якія з'явіліся пазней на аснове танцавальных.

Тое, што сярод паланезаў Агінскага пераважаюць п'есы стылізаваныя, "не для танцаў", пацвярджаюць і назвы: "Падзел Польшчы", "Развітанне", "Развітанне з радзімай" (падкрэслю, што гэтыя назвы не належаць самому кампазітару, а надаваліся пазней, часта нават неабгрунтавана. Напрыклад, знакаміты ля мінорны паланез "Развітанне з радзімай" больш правільна было б назваць "Сустрэча з радзімай", бо напісаны ён быў у Залессі, у самы плённы перыяд творчасці кампазітара). На вялікі жаль, да апошняга часу нават само імя Агінскага выклікала асацыяцыю толькі з гэтым папулярным паланезам, дый нават не ў аўтарскім варыянце, а ў апрацоўцы Д. Рагаль-Лявіцкага, які стылізаваў гэты твор пад агульнаеўрапейскую салонную "музычную моду" XIX стагоддзя. Аўтарскі варыянт — больш вытанчаны паводле музычнага складу. І хаця з ім зжылася назва "Развітанне з радзімай", але, пэўна, у сумотнай гэтай музыцы можна пачуць значна большае: развітанне з эпохай.

Як грамадзянін, М. Кл. Агінскі шчыра перажываў падзел Рэчы Паспалітай і сваю ўласную драму — вымушанае жыццё па-за яе межамі; як творца ён адчуваў змену эстэтычных эпох: адыход ад класіцызму і нараджэнне рамантызму. Гэты ўнутраны разлом адбыўся й на ягонай творчасці, для якой уласціва ўжыванне класічных форм і тэхнікі ў рамантычных па змесце опусах. Вынік гэткай дваістасці светаўспрымання кампазітара — у агульным настроі ягоных твораў, пра якія Ф. Ліст пісаў: "Іх змрочны агульны характар змякчаецца пачуццём нейкай пяшчоты, наіўнага і меланхалічнага зачаравання. Рытм слабее, мадуляцыі змякчаюцца — нібы картэж, спачатку ўрачысты ды шумны, замоўк і засяродзіўся, праходзячы каля магілак, побач з якімі змаўкаюць гордасць і смех... Потым магілы адступаюць... адыходзяць удалечынь... ледзь бачныя ўдалечыні. Жыццё прад'яўляе свае правы; змрочныя ўражанні пераварваюцца ва ўспаміны і вяртаюцца толькі як водгулле". Праўда, ёсць сярод паланезаў Агінскага й прызначаныя для танцаў, напісаныя больш сціплымі сродкамі, без ужывання тэхнічных складанасцей і тэмпарытмічных змен.

Творы Агінскага — ранні прыклад выкарыстання жанру фартэпіяннай мініяцюры, які склаўся ў музыцы рамантычнай эпохі. І Ф. Шапэн, у творчасці якога гэты жанр перажывае безумоўны росквіт, не з'яўляецца першаадкрывальнікам ператварэння танцавальнай п'есы (вальс, паланез, мазурка, і г. д.) у канцэртную, напоўненую глыбокімі пачуццямі і значным духоўным сэнсам. Гэты шлях прайшлі бліжэйшыя папярэднікі Шапэна — Восіп Казлоўскі, Мацей Радзівіл, Восіп Качкоўскі, Станіслаў Грабоўскі, Марыя Шыманоўская. Але галоўнае месца тут належыць, безумоўна, Міхалу Клеафасу Агінскаму.

Пакуль што немагчыма зрабіць храналогію ягоных паланезаў (усяго іх каля 20), бо прыжыццёвыя выданні складаліся ў большасці выпадкаў без удзелу і часам нават без ведама кампазітара. З рэкламнай мэтай выдавецтвы друкавалі легенды пра жыццё Міхала Клеафаса: то пра ягонае самагубства (на вокладцы аднаго з выданняў быў змешчаны малюнак маладога чалавека, які цэліў з пісталета сабе ў скронь), то пра ягоную смерць. Ды й колькі такіх легенд пра сябе чуў Агінскі на працягу жыцця! Але, паводле ягоных жа выказванняў, былі выданні, якія грунтаваліся на матэрыялах, прадстаўленых самім кампазітарам. Сярод іх — выданні Інкермана і Рыкордзі. Больш познія выданні, пераважна сучасныя, друкуюць не толькі паланезы, але й іншыя фартэпіянныя творы, абапіраючыся на архіў кампазітара. Сярод іх — вальсы, маршы, мазуркі, кадрылі, галоп і менуэт. Аддаючы даніну традыцыі, Агінскі некаторыя творы пісаў на папулярныя, модныя музычныя тэмы свайго часу. Як прыклад — мазурка на тэмы з оперы Расіні "Зельміра".

Творы, якія нараджаліся ў працэсе імправізацыі пераважна ў прыватных салонах, напісаны для клавесіна або для фартэпіяна; у некаторых з іх скарыстана тэхніка, характэрная выключна для клавесіна (паланез Es-dur) ці, наадварот, для малаточкавага інструмента, але стыль фартэпіянных твораў Агінскага далёкі ад распаўсюджанага ў той час стылю "брыльянт" і набліжаецца да венскіх класікаў (характэрны прыклад — паланез d-moll).

Салоннае музіцыраванне было ў XIX стагоддзі настолькі распаўсюджаным, што "задавала тон" нават развіццю пэўных жанраў і кампазітарскай тэхнікі. У салонах спявалі, гралі на струнных і духавых інструментах, але найбольш традыцыйнымі "ўдзельнікамі" вечарын былі пазітыў (аднаманульны хатні арган), клавесін і, вядома, фартэпіяна. Таму ў фестывальным канцэрце гучалі як раяль, так і арган, і клавесін. Выканаўца — бліскучы піяніст, аўтар фартэпіянных і арганных транскрыпцый Ігар Алоўнікаў так характарызаваў пабудову канцэрта: "Празрыстая музыка, досыць простая па фактуры, пазбаўленая асаблівых цяжкасцей, цудоўна гучыць на клавесіне. Гучанне аргана ажывіць музычны вечар і будзе адпавядаць традыцыі".

У канцэрце прагучалі арганныя транскрыпцыі Станіслава Манюшкі паланезаў Агінскага; апроч У. Алоўнікава, ігралі лаўрэаты міжнароднага конкурсу фартэпіянных дуэтаў Настасся Пазнякова і Ганна Гетманава, — і гэта, і тое, што канцэрт прайшоў без перапынку, зрабіла яго вельмі захапляючым і разнастайным.

АЛЕ ГЭТА яшчэ не ўсё. "Беларуская Капэла" мае копію рукапісу адзінай у творчасці Агінскага оперы "Зеліс і Валькур, ці Банапарт у Каіры", напісанай у 1799 годзе і прысвечанай Напалеону. Пытанне, ці ўбачыў гэты твор оперную сцэну, пакуль не мае адказу, але вядома, што да апошняй вайны ў бібліятэцы Опернага тэатра ў Варшаве захоўваліся выдадзеныя партытура й аркестравыя галасы оперы. Першае, фрагментарнае выкананне яе адбылося ў 1953 годзе на Польскім радыё ў Кракаве, цалкам яна прагучала ў 1958 годзе на Польскім тэлебачанні ў Варшаве. "Беларуская Капэла" плануе ў пачатку мая паказаць оперу Агінскага на падмостках айчыннага тэатра оперы і балета Беларусі, плануецца таксама камерны канцэрт з твораў кампазітараў сям'і Агінскіх (Эмы, Караля і Ксаверыя).

І яшчэ адзін прыемны факт. Як вядома, дачка Міхала Клеафаса, Амалія, выйшла замуж за Караля Залускага (дарэчы, род Залускіх таксама вядомы сваёй музыкальнасцю), і адзін з нашчадкаў роду Агінскіх па гэтай лініі, Іва Залускі, які цяпер жыве ў Лондане, праявіў вялікую зацікаўленасць у імпрэзах па ўшанаванні яго вялікага продка, якія ладзіць "Беларуская Капэла", і хацеў бы наведаць Мінск падчас "майскай" часткі фестывалю. Ён — піяніст, выступае, але нячаста, з праграмамі фартэпіяннай музыкі М. Кл. Агінскага. Спадзяёмся, што і нам выпадзе магчымасць паслухаць творы Міхала Клеафаса ў выкананні ягонага пра-пра-пра-праўнука.

... Тры тыя слотных, хлюпотных вечары прымалі філарманічныя залы сталіцы вялікую колькасць людзей, якія хацелі слухаць музыку Агінскага. Мо не такія мы ўжо й хворыя, як самім іншы раз здаецца? Можа мы, "гордыя сваім паходжаннем ліцвіны", ужо ачуньваем?

**Наталля СОБАЛЕВА,**
**музычны рэдактар**
**"Беларускай Капэлы"**



*Заслужаная артыстка рэспублікі Тамара ПЯЧЫНСКАЯ.*



*Пад гукі паланеза...*



*Чарадзейная флейта Уладзіміра БУРАГА.*

*Фота Віт. АМІНАВА і У. МЯЖЭВІЧА*

Фестывалі

# АЗОРАНЫЯ ЎНУТРАНЫМ СВЯТЛОМ

***Сёмы раз па блаславенні Святейшага Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Аляксея II і пад эгідай Маскоўскага Патрыярха і Асацыяцыі міжнароднага супрацоўніцтва "Кантыненты" ў сталіцы Расіі адбыўся Міжнародны фестываль праваслаўнай музыкі. І другі раз у ім браў удзел Полацкі камерны хор пад кіраўніцтвам Людмілы Жукавай.***

Такія фестывалі — вельмі прэстыжныя і адказныя святы. Крытэрый адбору досыць строгі: у асяродку праваслаўя склаліся асаблівыя традыцыі выканання духоўнай музыкі, адносіны да святога пісання і трактоўкі духоўных жанраў. Шанаваць і выконваць гэтыя ўмовы трэба абавязкова. Але пры гэтым трэба мець і сваё творчае аблічча. Бо духоўная музыка, як ніякая іншая, імгненна выяўляе ўнутраны свет выканаўцы — яго багацце або пустату. Толькі азораныя святлом асобы і глыбокім разуменнем боскага слова, гэтыя песняспевы набіраюць сілу, здатную пераўтвараць душы.

Менавіта гэтыя якасці ў мастацкай манеры Полацкага камернага хору неаднаразова адзначаліся падчас канцэртаў маскоўскага фестывалю. Летась дэбютанты, нашы артысты здзейснілі неверагодны рывок у сваім майстэрстве, дамогшыся якасна новага гучання, суладнасці і той прамудрай прастаты, якая не залежыць напрасткі ад тэхнікі спявання, а належыць сферам больш высокім і тонкім. Калектыў прывёз на фестываль праграму, у якой амаль усе творы і аўтары сталіся адкрыццём і для пастаянных наведвальнікаў канцэртных залаў, і для знаўцаў-прафесіяналаў. Два канцэрты: у Калоннай зале і ў зале імя Рахманінава Маскоўскай кансерваторыі ўключалі рэдкасныя песняспевы Максімава, Музычэску, Мясніковa, Трапашкі, Кулiковіча (два апошнія — беларускія аўтары-эмігранты).

Пераборлівая маскоўская публіка (ведаем па сваім канцэртным вопыце) даволі ашчадная на эмоцыі і станоўчыя ацэнкі. Аднак, падпарадкоўваючыся бліскучаму дырыжорскаму жэсту Людмілы Жукавай, усё цяплей прымала яе пераканаўчыя трактоўкі, логіку сэнсавых акцэнтаў, выяўленых дэталяў. І ўжо амаль поўнае ўзаемаразуменне панавала паміж залай і сцэнай падчас выканання "Совета превечного" П. Чеснакова, калі трэць слухачоў слухала голас салісткі М. Ташкер з заплюшчанымі вачамі, баючыся згубіць нітку высокай асалоды.

Няпростым быў шлях калектыву да такога поспеху: афіша міжнароднага фестывалю — гэта сузор'е буйных імёнаў, а выступаць поруч з вядомымі майстрамі неверагодна цяжка. Сёлета ў канцэртах удзельнічалі Дзіцячы хор Вялікага тэатра, знакаміты мужчынскі хор "Православные певчие", славутая акадэмічная харавая капэла Расіі імя Юрлова, ансамбль салістаў "Сирин", "Московский Кремль", "Русская песня", "Кант", "Благовест", замежныя госці. Таму асаблівы гонар — звярнуць на сябе ўвагу ў такім акружэнні. Тым болей, што Полацкі камерны хор аказаўся адзіным прадстаўніком Беларусі.

Ажыццявіць гэтую паездку памаглі хору людзі і арганізацыі, якія падтрымалі калектыў на шляху да поспеху: Нафтаперапрацоўчы завод, які даў аўтобус, Навапалацкі гарвыканкам (А. Ніякоўскі, Л. Афанасьева), фірмы "Дэвон" (С. Літвінаў), "Таіс" (Г. Голуб), Белаўтасервіс (А. Пахоменка). Вялікі ім дзякуй за бескарыслівую дапамогу, за шчырую веру ў магчымасці калектыву.

А нядаўна полацкія музыканты адзначылі 5 гадоў існавання свайго камернага хору. Творчай справаздачай стаўся канцэрт у Сафійскім Саборы. Натхнёныя галасы ўзнесліся пад блаславёныя купалы, каб струмені радасці і прасвятлення напоўнілі нашы сэрцы.

**Алена ВАСІЛЬЕВА,**
**музыказнаўца**

## ТАМАРЫ КАЛАМІЕЦ — 60

**Тамара Апанасаўна Каламіец — з тых нашых сяброў на братняй Украіне, хто вельмі шмат робіць на ніве ўкраінска-беларускіх узаемасувязей. Яна прысвяціла нашай рэспубліцы цыкл вершаў “Беларусь (дарогі)”, змешчаны ў кнізе “Колас лета майго”, а таксама вершы “Беларусь. Урачысты трыпціх”, “Памяці Еўдакіі Лось”, “Цвілі ў Беларусі сады”, “Мне зноў прыснілася Беларусь” і іншыя (зборнік “Восеньская баразна”), шэраг іншых публікацый.**

**На ўкраінскую мову Т.Каламіец пераклала вянок санетаў Н.Гілевіча “Нарач” у яго кнізе “Выбранае” (1978), вершы Р.Барадуліна ў кнізе “Свята пчалы” (1978), зборнік Е.Лось “Чаромхавы поезд” (1983).**

**Рэдактар і адзін з перакладчыкаў “Выбранага” М.Танка (1983). Дзякуючы ёй па-ўкраінску пераўвасоблены асобныя творы Я.Коласа, П.Панчанкі, У.Дубоўкі, Я.Янішчыц, А.Пысіна, Я.Сіпакова, П.Макаля...**

**На беларускую мову творы Т.Каламіец перакладалі Н.Гілевіч (зборнік для дзяцей “Цар Гарох”, 1982), Р.Барадулін, В.Вярба, Е.Лось, Ю.Свірка...**

**Віншуем Тамару Апанасаўну з юбілеем! Зычым ёй здароўя і новых творчых поспехаў!**

## “САМАЯ НАДЗЕЙНАЯ — ПАРТЫЯ НІЖНІКАВАЙ!”

**“Шмат было ў Вашым творчым жыцці партый, але самай надзейнай сталася партыя Тамары Ніжнікавай у гісторыі беларускага мастацтва”, — сказаў намеснік міністра культуры і друку У. Рылатка, звяртаючыся са словамі віншавання да слыннай нашай артысткі ды цудоўнага педагога. Яна, Тамара Мікалаеўна Ніжнікава, прымала ў гэты вечар шматлікія віншаванні: ад афіцыйных асоб і сяброў, ад вучняў і колішніх выхаванцаў, ад калег і прыхільнікаў. Вечар, прысвечаны ейнаму юбілею, праходзіў у цёплай і вельмі дэмакратычнай атмасферы Вялікай залы Беларускай акадэміі музыкі. Вядучы вечарыны В. Аўраменка нагадваў старонкі бліскучага творчага шляху Т. Ніжнікавай: у 29-гадовым узросце яна была ганаравана званнем заслужанай артысткі рэспублікі, амаль праз год — народнай, а ў 38 гадоў стала народнай артысткай СССР. Мае 30-гадовы педагагічны вопыт, а гэта значыць — дзесяткі вучняў, аспірантаў, паслядоўнікаў, сярод якіх ёсць і выдатныя, і проста добрыя, “школы Ніжнікавай”, спевакі. Нямала іх было і сярод удзельнікаў вечарыны: спявалі і сённяшнія студэнткі, і зусім юныя навучэнкі Мінскага музычнага вучылішча, і вядомыя артысты. Сярод іх адна з першых выпускніц Тамары Мікалаеўны — М. Лапаціна, лаўрэат міжнароднага конкурсу Т. Цыбульская, дыпламант міжнароднага конкурсу “Новыя галасы Еўропы” Л. Лют, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі В. Скорабагатаў, які праспяваў свой віншавальны “ліст” на музыку С. Рахманінава... Было нямала цудоўных сюрпрызаў, добрых слоў, усмешак і кветак. Зачытваліся тэлеграмы ад Прэзідэнта А. Лукашэнкі ды прэм’ер-міністра М. Чыгіра, кранальна і шчыра гучала віншаванне рэктара БАМ М. Казінца, расчуліў залу непаўторны дуэт двух прафесароў вакалу — Тамары Ніжнікавай ды Леаніда Івашкова, прыемна здзівіў актэт вучаніц Тамары Мікалаеўны ў жартоўным прывітанні пад папулярную мелодыю з “Сільвы”... А завяршалася ўсё ўзрушаным словам імяніннніцы, удзячнай лёсу, людзям і Беларусі, на якой спраўдзілася яе жыццё.**

**С. Б.**

## “ДЗЕД І ЖОРАЎ”

**Даўшы летась болей за паўтузін дабрачынных спектакляў для дзяцей-сірот, дзяцей-інвалідаў ды выхаванцаў з малазабяспечаных сем’яў, Берасцейскі тэатр лялек, што называецца, вырашыў не спыняцца... З пачатку новага года артысты пабывалі ў абласной дзіцячай бальніцы, Бучымлянскім доме-інтэрнаце, а нядаўна дэкарацыі спектакля “Дзед і Жораў” В. Вольскага былі ўсталяваны ў медыка-рэабілітацыйным цэнтры “Тонус” — тут праходзяць курс лячэння дзеці, хворыя на цэрэбральны паралюш. Вядома, наўрад ці яны самі калі-небудзь дайшлі б да тэатра — таму тэатр са своеасаблівым актам “рэабілітацыі лялечным мастацтвам” сам дайшоў да іх.**

**Дарэчы, у той жа дзень лялечнікі ды прадпрымальнікі праклалі яшчэ адзін дабрачынны маршрут: у псіханеўралагічны дыспансер. І тут ужо “Дзед і Жораў” выступіў у якасці “рэабілітатара” псіхалагічнага: прынамсі, і такі не зусім звыклы для тэатра глядач аказаўся досыць неабыякавым да кранальнай гісторыі стасункаў Дзеда, Жорава, Пана ды іншых персанажаў гэтай цудоўнай казкі. Урэшце, можа, на неабыякавасці і трымаецца гэты свет?..**

**І. Х.**

Віншуем!

# МІКОЛУ РАКІТНАМУ — 75

Ён мог стаць мастаком... У 1936—1939 гадах Мікола Новікаў (сапраўднае прозвішча) вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы. Але стаў, як вядома, пісьменнікам... Першае апавяданне Мікола Ракітны надрукаваў на рускай мове ў 1944 годзе ў армейскім выданні. Перад гэтым былі баі на Цэнтральным і Паўднёва-Заходнім франтах. Але лёс з арміяй звязаў значна раней — у войска быў прызваны яшчэ ў 1939 годзе.

Пасля дэмабілізацыі ў 1946 годзе Мікола Ісакавіч працаваў мастаком і літработнікам газеты “Звязда”, а ў 1949 годзе звязаў свой лёс з рэдакцыяй часопіса “Беларусь”, дзе спачатку быў рэдактарам аддзела нарыса, а з 1967 года да выхаду на пенсію — рэдактарам аддзела літаратуры і мастацтва.

У М.Ракітнага выйшлі кнігі апавяданняў “Ранняй вясной” (1952), “Вячэрнія зоры” (1956), “Селькоры” (1958), “Пад адным дахам” (1961), “Была вясна...” (1964), “Вясковыя навелы” (1969), “Засмужаная далеч” (1979) і іншыя. У 1980 годзе пабачылі свет выбраныя творы ў двух тамах, у 1994 годзе — аднатомнік выбранага “Поле ціхае, поле светлае...”

М.Ракітны ў асноўным працуе ў жанры апавядання і ў гэтым кірунку дасягнуў поспехаў, аб чым сведчыць пераклад яго лепшых твораў на іншыя мовы.

Віншуем Міколу Ісакавіча з 75-годдзем! Зычым яму і надалей жыць годна, працаваць плённа!

# БЕЛАЕ ПОЛЕ ДЛЯ ЗЛАЧЫНСТВАЎ...

*(Пачатак на стар. 5)*

Пятра Пятровіча Халюту я папрасіла найперш расказаць пра наркатычную сітуацыю ў краіне наогул, пра тое, наколькі яна небяспечная, пра статыстыку, што характарызуе наркаманію і наркабізнес. Ён распавёў:

— Злачынны свет намагаецца ператварыць Беларусь у пералачны пункт нарка-кантрабанды. Наша выгаднае геапалітычнае становішча на шляху з Азіі ў Еўропу прыцягвае, як магнітам, розных наркадзялкоў і наркабізнесменаў. Зараз мы ці не штомесяц затрымліваем значныя партыі наркотыкаў. Паступаюць яны да нас, як правіла, з Расіі і краін каўказскага рэгіёна. Летась, скажам, быў затрыманы 51 грамадзянін з 13 краін блізкага і далёкага замежжа. Так, група грамадзян з Дагестана была затрымана ў Брэсце. Натуральна, яны нідзе не рэгістраваліся, жылі нелегальна, шукалі кантакты з мясцовымі наркадзялкамі. Урэшце, гэтую групу затрымалі, калі яны спрабавалі збыць 3,5 кілаграма марыхуаны. А на “чорным рынку” 5 грамаў гэтай атруты каштуе 10 долараў. Канфіскавана таксама 3,5 кілаграма гераіну. Гэты наркотык асабліва дарагі. Выпадкаў такіх шмат. Можна згадаць вядомую гісторыю з гашышам, 2 тоны якога беларускія мытнікі “арыштавалі” ў Брэсце, які, як аказалася, ішоў з Афганістана праз Таджыкістан, Узбекістан, Расію, далей ягоны шлях павінен быў ісці праз Польшчу ў Германію. Гэты паток наркотыкаў не проста праходзіць праз нашую тэрыторыю — пэўная доля яго асядае на Беларусі, і гэта выклікае найбольшую трывогу і заклапочанасць. Сітуацыя абвастраецца несупынна. Для параўнання прывяду дзве лічбы. Калі пяць гадоў назад вадкага опію было канфіскавана 240 грамаў, дык летась — 42 літры. Назіраюцца наступныя дзве тэндэнцыі: наркотыкаў і завозіцца больш, і значна больш гатуецца на месцы.

**— Якія з іх найбольш часта выкарыстоўваюцца нашымі дамарослымі наркаманамі?**

— На тэрыторыі Беларусі расце 9 відаў раслін, якія вызначаюцца ярка выяўленым эфектам уздзеяння на псіхіку чалавека. Гэта ўсім вядомыя мак, каноплі, некаторыя грыбы-мухаморы і г.д. Гэтыя расліны спрадвечна раслі ў нас, але падобнае іх выкарыстанне практычна не заўважалася. Апошнім жа часам сітуацыя рэзка змянілася. Вы пытаеце, якія наркотыкі часцей за ўсё выкарыстоўваюцца? Дык вось вам адказ: наркотыкі, прыгатаваныя з макавай саломкі. Гатуюцца з яе розныя выцяжкі, настоі, якія пасля ўводзяцца ў арганізм шляхам ін’екцый. На макавы опій прыпадае недзе 70—75 працэнтаў ужываемых наркотыкаў. На другім месцы ідуць наркотыкі паўсінтэтычныя і сінтэтычныя, якія рыхтуюцца з медыцынскіх прэпаратаў, што ўтрымліваюць эфедрын. З іх атрымліваюць эфедрон, які таксама ўводзіцца шляхам ін’екцый. Гэта даволі моцны наркотык, ён робіць вельмі вялікае ўздзеянне на арганізм чалавека, і нават за кароткі час яго ўжывання наркаман вельмі хутка старэе, ператвараецца ў фізічнага і маральнага дахадзягу. На трэцім месцы — наркотыкі, якія рыхтуюцца з канапель. Гэта марыхуана, а таксама гашыш, які да нас завозіцца, бо нашы каноплі ўтрымліваюць вельмі невялікую колькасць канабіёлы. Акрамя таго, з Расіі да нас прыходзяць сінтэтычныя наркотыкі, створаныя ў лабараторных умовах, яны ў пяць тысяч разоў мацнейшыя за марфін. Гэта асабліва нас насцярожвае і непакоіць, бо сіла іх уздзеяння на чалавека імгненная, а ў нас з’явілася ўжо нямала людзей, якія могуць іх набыць.

**— Спрадвеку людзі ў нас сеялі на гародах мак. Булкі з макам, аладкі з макам, цёрты мак з мёдам — традыцыйныя беларускія ласункі-стравы. Наколькі правамерная забарона гэтага самага маку? Што гэта дае?**

— Яшчэ ў 1987 годзе, Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета былога СССР, было забаронена сеяць мак на прысядзібных участках і пустках. З таго часу гэтая забарона і дзейнічае, з таго часу мы і праводзім штогод аперацыю пад кодавай назвай “Мак”. Мы разумеем, што людзі сеюць яго для сваіх патрэб. Але ж сітуацыя такая, што ім наўрад ці ўдаецца спажыць яго самім. Часцей за ўсё яго спажываюць наркаманы. Яны апярэджваюць гаспадароў гародаў, не даюць маку выспець, зразаюць, вырываюць яго раней часу. Указа ніхто не адмяняў, забарона сеяць мак дзейнічае, і мы штрафуем людзей, якія насуперак забароне адводзяць пад мак грады. Мы маем права прыцягваць іх нават да крымінальнай адказнасці, толькі ж ці пацягнеш у суд вясковую бабулю за яе жаданне спячы булку з макам? Таму спадзяёмся хутчэй на свядомасць нашых людзей, на іх разуменне таго, што, каб спыніць зло, трэба карчаваць яго з карэннем.

Летась у часе аперацыі “Мак” было канфіскавана каля адной тоны макавай саломкі. Гэта толькі тое, што было выяўлена, адшукана, знойдзена ў цягніках, на станцыях, вакзалах. А мы ж разумеем, што гэта толькі невялікая частка. За год наркатычнай прадукцыі канфіскуецца на вельмі значныя сумы грошай. Пасевы маку летась былі выяўлены на плошчы 18,5 тысячы квадратных метраў, у тым ліку канапель — на паўтары тысячы метраў. Як я ўжо казаў, гашыш і марыхуану вязуць да нас у асноўным з Расіі і Казахстана, дзе пасеваў канапель — мільёны гектараў.

**— У друку даводзілася чытаць пра тое, што наркаманы ўсё шырэй асвойваюць на Гомельшчыне зону адсялення — сеюць там мак, не зважаючы на радыяцыю. Ці праўда гэта?**

— Сапраўды, з чарнобыльскімі зонамі адсялення ў нас узнікла і гэтая праблема. У 1993 годзе мы выявілі там 6 тысяч квадратных метраў пасеваў маку, летась — крыху менш. Даводзіцца і туды кідаць дадатковыя сілы, знішчаць гэтыя пасевы. Як там ні было, а гэтыя мерапрыемствы ўсё ж зніжаюць аб’ёмы паступлення наркотыкаў, а, значыць, спрыяюць змяншэнню колькасці наркаманаў.

**— Наркаманію заўсёды звязваюць са злачыннасцю...**

— Сувязь паміж імі самая непасрэдная. Злачыннасць, звязаная з наркаманіяй, расце надзвычай хуткімі тэмпамі, штогод недзе на 40—50 працэнтаў. Летась наркаманамі было ўчынена 195 злачынстваў, у тым ліку 2 забойствы, 4 цяжкія цялесныя пашкоджанні, 2 згвалтаванні. Самы пашыраны від злачынстваў, якія ўчыняюць наркаманы, — рабаўніцтва і крадзяжы. Летась іх было зафіксавана 118. На набыццё наркотыкаў патрэбны грошы, вось і крадуць альбо рабуюць. Тут наркаманы не спыняюцца ні перад чым. У Бабруйску група наркаманаў за кароткі час зрабіла 42 крадзяжы. Самы высокі ўзровень наркаманскай злачыннасці не толькі ў славутым Светлагорску, але і ў Гомельскай вобласці. У Светлагорску наркаманія набыла, на жаль, масавы характар, там ці не кожны другі падлетак зведаў “смак” наркотыка. Пакайфаваць — там як модаю стала ўсё роўна...

**— Колькі ў нас наркаманаў, калі не сакрэт?**

— Спажыўцоў наркотыкаў на ўліку стаіць 1700 чалавек, у дадатак 240 чалавек ужываюць псіхатропныя рэчывы. Карацей кажучы, усяго недзе каля 2000 чалавек. Але, як правіла, толькі дзесятая частка наркаманаў трапляе на ўлік. Значыць, можна з высокай доляй дакладнасці гаварыць, што наркаманаў у нас — каля 20 тысяч. Па прагнозах, да 2000 года іх будзе 90 тысяч.

**— Такі імклівы рост? Чым ён вытлумачваецца?**

— Пра гэта я ўжо казаў напачатку. Наркаман найперш заняты пошукам наркотыкаў. Насустрач ім ідуць наркадзялкі, якія зацікаўлены ў пашырэнні кола спажыўцоў іхняга тавару. Самі яны наркотыкаў не ўжываюць, яны разумеюць, чым гэта пагражае ім, а вось уцягнуць як мага больш людзей у гэты трагічны занятак стараюцца з усіх сіл. Ідуць нават на тое, што напачатку раздаюць наркотыкі бясплатна, абы пасадзіць чалавека, як мы кажам, на іголку, паставіць у залежнасць ад сябе. Ну, а пасля ўжо і сам наркаман актыўна распаўсюджвае вакол сябе вірус гэтай заразы. Статыстыка сведчыць, што адзін наркаман за год можа прывучыць да наркотыкаў 10—12 чалавек. Адсюль і такая прагрэсія росту іх колькасці ў краіне.

**— Трэба меркаваць, наркабізнес прыносіць велізарныя грошы...**

— Так, гэта дзесяткі, сотні тысяч долараў, якія звычайна адмываюцца праз банкі, камерцыйныя структуры. Нашы законы, на жаль, тут не надта пакуль дасканалыя, патрабуюць дапрацоўкі, каб гэтыя працэсы дзяржава магла рэгуляваць і кантраляваць.

Наша заканадаўства ўвогуле вымагае нямала нараканняў. Час пайшоў наперад, а законы засталіся ранейшымі. Змагацца з наркаманамі і наркабізнесам, зыходзячы з такіх законаў, проста немагчыма. На Украіне і ў Расіі, дарэчы, прынята новае заканадаўства, якое дае работнікам праваахоўных органаў куды больш магчымасцей для барацьбы з наркадзялкамі. Мы таксама рыхтуем новы праект закона па праблемах наркаманіі. Мы зыходзім з разумення таго, што наркаманія — хвароба, а хворага трэба лячыць. Іншая справа — наркабізнес і дзялкі ад яго. Іх трэба прыцягваць да адказнасці. Гэта адназначна.

**— І апошняе пытанне, Пётр Пятровіч. Ці можна гаварыць пра сувязі нашых наркабізнесменаў з міжнароднай наркамафіяй?**

— Як ні прыкра, але адказ тут безумоўна станоўчы. Міжнародная наркамафія аб’ядноўваецца. Скажам, калумбійскія наркадзялкі падзялілі ўжо і краіны СНД між сваімі кланамі. Не абышлі яны і Беларусь. Магчымасці ў іх проста неабмежаваныя. Яны могуць на працягу года распаўсюджваць у пэўным рэгіёне, у нас, скажам, наркотыкі бясплатна, каб стварыць новы плацдарм для свайго злачыннага бізнесу, яны ўмела знаходзяць шляхі стыкоўкі з нашымі наркаманамі і наркамафіёзі. Пакуль што, здаецца, мы для замежных наркабізнесменаў уяўляем белае поле для разгортвання іх злачыннай дзейнасці. Стрымлівае іх пакуль што наша нестабільная эканоміка і наш нестабільны беларускі рубель. Так што ўсё самае жудаснае, што звязана з наркаманіяй, са злачынствамі наркамафіі, у нас яшчэ, як ні сумна пра гэта гаварыць, наперадзе...

Як бачыце, шаноўныя лімаўскія чытачы, і першы, і другі мае суразмоўнікі ў канцы гутаркі паставілі не кропкі, а шматкроп’е. Шматкроп’е гэтае відавочна нярадаснае. Сацыяльна-грамадскія хваробы, што былі закрануты ў інтэрв’ю, не толькі не выяўляюць тэндэнцыі да спаду, а, наадварот, набываюць усё большыя, ці не эпідэмічныя маштабы. І дзяржаве нашай, грамадству нашаму ўжо даўно пара задумацца над гэтымі балючымі і трывожнымі праблемамі. Ніякія іншыя, нават самыя надзённыя праблемы не павінны засланяць іх, адсоўваць на другі план. Бо п’янства, алкагалізм і наркаманія пагражаюць не толькі таму ці іншаму асобнаму чалавеку, а ўсім нам, нашым дзецям і ўнукам. Пагражаюць нацыі.

**Інтэрв’ю правяла**
**Марыя ГІЛЕВІЧ**



*"А знаешь ли ты, Дементий, кто я?" Артур ШУЛЯК ды Ігар ЗАБАРА.*



*"Маўчаць гадзіну патраплю!" Артур ШУЛЯК ды Яўген ЖУРАЎКІН.*



*Дзяменцій з іголкаю, якою прапанавана зашыць губу. "Дурны жыд! Вада ж праз дзюркі павыліваецца!" Артур ШУЛЯК.*

# ЯК ТРЫСТА І АДЗІН РУБЕЛЬ

*(Пачатак на стар. 1)*

"Камедыю..." нароўні з "Тутэйшымі" ды "Ідыліяй". Маладзечна ды Гародня бяруць п'есу ў рэпертуар. Большае ды большае фестывальных запрашэнняў. Але... трэба шыць Чорту новыя нагавіцы, абнаўляць сціплую дэкарацыю, выдаткоўваць на складаны грым. Водгуллем гуляе па тэатры фраза, кінутая аднойчы ў кулуарах установы, праз якую фінансуюць "дзяржаўнае мастацтва": у нас, маўляў, і на дзяржаўныя тэатры грошай няма... Але, але, "Альтэрнатыўны" — тэатр не дзяржаўны. Яму як нікому вядомы гаркавы прысмак асучасненых Давідкавых слоў: "Няма чым пану арэнду плаціць". Самае балючае, самае слабое месца тэатра — гэтая самая арэнда. У "Камедыі..." да селяніна Дзёмкі з'яўляецца высакародны Чорт, ды, ідучы ў заклад, дае надзею аж на трыста і адзін рубель. Чорт, урэшце, даруе і Дзёмкаў пройгрыш, і нараканні на бацьку Адама, "які ўсіх нас у гэтае ліха ўправіў". Якога Чорта чакаць "Альтэрнатыўнаму"? Тым больш, што Чорт тэатральны, традыцыйны, — "адзін такі пачцівы і свенты"...

Калізіі спектакля як ніколі адбіваюць жыццёвыя. Але ёсць яшчэ чацвёра выканаўцаў і думка, што найважныя сярод усяго вымаўленага ды паказанага цяпер якраз — яны. Як асобы, як людзі, як... цярплівыя людзі. Як трывушчыя. Артур Шуляк, Ігар Забара, Яўген Жураўкін, Святлана Нікіфарава. Пра іхнія ўзнагароды ды ўшанаванні пакуль не будзем, дый наша дзяржава да іх не спрычынялася. Згадаю артыкул Георгія Коласа пра выпускны курс, дзе навучаліся трое з удзельнікаў спектакля. "Геніяльнасць, што з табой рабіць?" — на поўным сур'ёзе перапытваў Георгій Данілавіч."Што-небудзь ды зробім", — сёння адказвае "Альтэрнатыўны". Далібог, зробяць. Што? Тое, што абавязкова прадставіць адметнасці акцёрскай вывучкі ды прафесійную абазнанасць, — арганічна, натуральна, тэатральна. Дзе б там ні было.

...Але хацелася б — пэўнага, вызначанага, дакладна вядомага ўжо сёння. "Што-небудзь" — так ненадзейна!.. Як трыста і адзін рубель, агавораны ў знакамітым камедыйным закладзе. "Альтэрнатыўнікі" спадзяюцца яго выйграць. Яны выйгравалі ўжо неаднойчы. Праз трыста і адзін рубель!.. Але камусьці ж наканавана немінучая страта — разам з сэнсам свайго размеркавальнага існавання.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Віктара АМІНАВА*



*"Маўчы, жыд! Будзе мне, будзе і табе!" Артур ШУЛЯК ды Яўген ЖУРАЎКІН.*

*Давідка не верыць у Чорта; магчымы доказ — шмаргануць Чорта за хвост. "Ну шмаргані, шмаргані!" Ігар ЗАБАРА.*



*"Ты навошта мне свой дурны язык паказваеш?" Святлана НІКІФІРАВА ды Артур ШУЛЯК.*



*Перад выхадам ля люстэрка Ігар ЗАБАРА.*

## НАВАТ ЁСЦЬ НАДЗЕЯ



**Сакавіцкая вандроўка ў Беласток Валерыя Раеўскага, Юрыя Авяр'янава ды Уладзіміра Кін-Камінскага мела на ўвазе аднаўленне спектакля "Рэвізор" М. Гогаля: за два гады змяніліся акцёры ў Беластоцкім тэатры імя А. Венгеркі... Магчыма, цікавасць нашых чытачоў задаволіць звестка пра тое, што сваё колішняе вырашэнне гогалеўскага матэрыялу, увасобленае на купалаўскай сцэне (шмат хто памятае гэты спектакль Валерыя Раеўскага, дзе былі заняты Віктар Тарасаў, Генадзь Гарбук, Яўген Крыжаноўскі і шмат хто са знаных купалаўскіх акцёраў), рэжысёр перанёс на беластоцкую сцэну. Мастак У. Герлаван на тую самую сцэну перанёс свае сцэнаграфічныя ідэі...**

**Спектакль не ішоў у Беластоку амаль паўтара года. Цяпер, пасля аднаўлення, нават ёсць надзея, што з ім пазнаёмяцца беларускія гледачы: чулі пра гэта асабіста ад Анджэя Якімца, мастацкага кіраўніка тэатра імя Венгеркі ў Беластоку.**

*На здымку: сцэна са спектакля "Рэвізор" М. Гогаля ў Беластоцкім тэатры імя А. Венгеркі. У ролі Восіпа — Уладзімір Кін-Камінскі.*

## УПЕРШЫНЮ "НА ЛЮДЗІ"



**Дом народных промыслаў — новае грамадскае ўтварэнне. Першым яго выхадам "на людзі" з'яўляецца выстава ў Доме дружбы і культурнай сувязі. Тут прадстаўлены вырабы як з традыцыйных (лён, саломка), так і з сучасных матэрыялаў, выстаўлены кераміка, бацік, роспіс па дрэве, ручная вышыўка, гафтаванне, ювелірныя вырабы. Многія студыі, галерэі, гурткі сталіцы і рэспублікі атрымалі магчымасць паказаць лепшае, што створана народнымі ўмельцамі.**

**Дырэктар Дома народных промыслаў Л. Шыршова галоўную мэту дзейнасці азначыла як служэнне нацыянальнай культуры, дабру і прыгажосці. Ганаровым прэзідэнтам стала наша тэлезорка Зінаіда Бандарэнка, а сродкі на выставу выдзеліў "Прыорбанк".**

**Як недахоп выставы (выклікаhistория, магчыма, спешкай) адзначым безыменнасць многіх вырабаў. Спадзяёмся, ён выпраўлены.**

**Наш кар.**

*На здымку: керамічная кампазіцыя А. Чумакова, Я. Паліноўскага з Барысава.*

*Фота Аляксея МАЦЮША*

## ДА НОВАЙ БЕЛАРУСІ ПРАЗ... НОВЫХ ЛЮДЗЕЙ

**А новыя людзі, пераканаhistory заснавальнік грамадска-палітычнай і інфармацыйна-рэкламнай газеты "Новая Беларусь" (дарэчы, ён у свой час рэдагаваў мінскую гарадскую газету "Добры вечар") Міхась Расолька, знаходзяцца поруч з намі са сваімі, так сказаць, пакуль належным чынам незапатрабаванымі магчымасцямі. Адзін з іх — ініцыятар і прэзідэнт Беларускага дабрачыннага фонду "Аб'яднанне", прэзідэнт кампаніі "Рамас", якая на сённяшні дзень прадстаўляе прамыслова-фінансавую групу з 43 фірм і прадпрыемстваў, Генадзь Гаўрыс.**

**Гутарка з ім — "Эканоміка для ўсіх" — займае цэнтральнае месца ў першым нумары газеты. Змешчаны і іншыя матэрыялы, у тым ліку верш А. Зэкава "Сыны вяртаюцца дамоў" і тэкст песні "Полька беларуская" Л. Дранько-Майсюка (музыка І. Лучанка).**

# БЕЛАРУС З СУСВЕТНЫМ ІМЕМ

Барысу Уладзіміравічу Кіту — славутаму беларусу, акадэміку Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі — 6 красавіка споўнілася 85 гадоў. Гэты юбілей ён сустрэў поўны сіл і энергіі, закаханасці ў жыццё і добрых людзей, якія заўсёды спадарожнічаюць яму. Тыя з нашых землякоў, хто бывае ў Франкфурце-на-Майне, дзе цяпер жыве Барыс Уладзіміравіч, ніколі не мінаюць яго гасціннасці, захапляюцца прыхільнасцю, добразычлівасцю, выдатнай памяццю і ведамі свайго суайчынніка, а многія наогул называюць яго грамадзянінам свету, чалавекам будучыні. А ён — відавочца і ўдзельнік драматычных падзей XX стагоддзя — лічыць сябе звычайным беларусам, хоць афіцыйна і з'яўляецца грамадзянінам ЗША. Нягледзячы на тое, што паўстагоддзя не жыў на Беларусі, змог захаваць жывую, чыстую, беларускую мову (дасканала валодаючы пры гэтым англійскай, французскай, нямецкай, польскай, рускай), адданы Бацькаўшчыне, ідэям нацыянальнага Адраджэння.

Родныя мясціны Б.Кіта — Мір, Карэлічы, Наваградак, дзе прайшлі яго маладыя гады. У Шчорсах, у маёнтку графа Храптовіча, некалі працаваў яго дзед, у вёсцы Агароднікі (цяпер адна з вуліц Карэліч) бацька пабудаваў хату, вярнуўшыся з жонкай і васьмігадовым сынам з Пецярбурга, дзе быў на заробках. Тут жа, у Карэлічах, з дапамогай бацькі пачалася першая навука, а затым з 1926 г. Барыс Кіт — вучань Навградскай беларускай гімназіі, пасля заканчэння якой паступае ў Віленскі універсітэт на фізіка-матэматычны факультэт. Ужо ў студэнцкія гады прымаў актыўны ўдзел у беларускіх справах: арганізоўваў гурткі Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, падтрымліваў такіх дзеячаў вызваленчага руху, як Б.Тарашкевіч, браты Луцкевічы, А.Станкевіч, быў асабіста знаёмы з Р.Шырмай, сябраваў з сям'ёй Орсаў, Міколам і Хведарам Ільяшэвічамі, П.Скрабцом і іншымі беларусамі-патрыётамі.

Яшчэ студэнтам Б.Кіт стаў настаўнікам матэматыкі ў Віленскай беларускай гімназіі, а затым і яе дырэктарам. Калі яна была зачынена, перавёз вучняў-беларусаў у Наваградскую гімназію, дзе пад яго кіраўніцтвам, энтузіязмам настаўнікаў, бацькоў быў узведзены новы будынак (цяпер школа імя А.Міцкевіча). За сваю адданасць беларускім ідэям, якія настаўнік прывіваў маладому пакаленню, двойчы арыштоўваўся дэфензівай.

Шырока разгарнулася дзейнасць Б.Кіта па развіцці беларускага школьніцтва, калі яго прызначылі акруговым школьным інспектарам Баранавіцкай акругі. Адбылося гэта пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР.

А тут пачалася вайна, фашысцкая акупацыя. Немцы расстрэльвалі тых, хто займаў хоць якую пасаду пры саветах. І Б.Кіт, каб пазбегнуць расправы, вымушаны быў выехаць у вёску. Але як сапраўдны педагог, ён выдатна ўсведамляў, што дзяцей трэба вучыць, што б ні здарылася. Таму перачакаўшы першую небяспеку, ён пачынае дзейнічаць: папрацаваўшы ў вясковай школе, спрабуе адчыніць настаўніцкую семінарыю ў Маладзечне, затым Адміністрацыйна-гандлёвую школу (тым самым ратаваў моладзь ад вывазу ў Германію). Але немцы хутка агледзеліся, што гэтая ўстанова пад шыльдай звычайнай школы дае вышэйшую адукацыю беларускай моладзі, а па іх акупацыйных законах мясцовым "унтэрмэншам", людзям "другога гатунку", дастаткова было пачатковай. Б.Кіт трапіў у гестапа і быў бы расстраляны, калі б яго не выратавалі былыя вучні з Віленскай гімназіі. Апасаючыся за ўласнае жыццё, Барыс Уладзіміравіч вымушаны



быў пакінуць Радзіму.

Пашчасціла, што і на эміграцыі ён меў магчымасць займацца настаўніцкай дзейнасцю, навучаць моладзь ва універсітэтах. У выгнанні ён не згас, а ўспалымнеў творча, не згубіўся ў шматлікім, разнамоўным і супярэчлівым свеце чужыны. Дзякуючы настойлівасці, ведам, чалавечаму таленту, добраму беларускаму характару, ён пачаў і тут здабываць сабе і Радзіме гонар і славу. Яго дзейная, працавітая натура працягвала тварыць гісторыю ўласнага жыцця, якая змястоўнай, яркай старонкай упісваецца ў гісторыю чалавецтва.

Адным з першых беларусаў у пасляваенны час Б.Кіт (з жонкай і сынам), маючы даведкі аб праследаванні нацыстаў, трапіў у Амерыку. Пасяліліся яны ў Саўт-Рыверы

Архівы

# "МАБІЛІЗАВАНЫ НА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ..."

## ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА КАНСТАНЦІНА ЕЗАВІТАВА

*"...Мы памром калі-небудзь усе, але астанецца жыць наша праца і добрае імя, ды астанецца жыць наш народ, для якога варта ісці на ўсялякія ахвяры..."*

*К. ЕЗАВІТАЎ*

***У Беларускім дзяржаўным архіве, былым Цэнтральным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР, нечакана загаварылі аб рассакрэчаным асабістым фондзе так званага буржуазнага нацыяналіста К. Езавітава. Сюды накіраваліся журналісты, даследчыкі, тэлерэпарцёры. Але прайшоў 100-гадовы юбілей Канстанціна Барысавіча, шум вакол яго імя прыціх. А між іншым, гэтыя унікальныя матэрыялы могуць паведаць нямала цікавага. Прапаноўваю падборку з лістоў К. Езавітава саракавых гадоў, часу гітлераўскай акупацыі. Рабіць вывады — самому чытачу.***

### БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

Канстанцін Барысавіч Езавітаў нарадзіўся 5 лістапада 1893 года ў Дзвінскай крэпасці. Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут.

З 1918 года ў 1 урадзе БНР, член Беларускай сацыялістычнай грамады, камендант Мінска ў часы БНР, палкоўнік Беларускай службы. "... 6 снежня 1918 года пры эвакуацыі беларускіх устаноў з Мінска я як беларускі вайсковец і былы камендант беларускі ў Мінску... пакінуў гэты горад і накіраваўся па запрашэнні Віленскай Беларускай Рады ў Вільню..."

З 1919 года — шэф ваенна-дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі. Затым прычыніўся да беларускага нацыянальна-асветніцкага жыцця:

— рэдактар штомесячніка "Беларуская школа ў Латвіі";

— выдавец газеты "Голас Беларуса" ў Рызе;

— адзін з ініцыятараў "Таварыства беларускіх вучыцеляў у Латвіі" (заснавана ў 20-я гады);

— выкладчык беларускай мовы, гісторыі і методыкі гісторыі, геаграфіі і малявання на Беларускіх настаўніцкіх курсах у Рызе (20-я гады);

— лідэр Дзвінскага аддзялення партыі незалежных сацыялістаў (1928 г.);

— кіраўнік Беларускага выдавецтва ў Латвіі;

— старшыня Беларускага навукова-краязнаўчага гурта;

— рэдактар "Бацькаўшчыны";

— адзін з арганізатараў беларускага школьніцтва і беларускага адраджэння ў Латвіі.

Яго працы: "Беларусы ў Літве" (1932 г.), "Беларусы ў Латвіі" (1939 г.), "Беларуская школа", чытанка (1926 г.), "Гісторыя беларускага друку" (1939 г.), "Рэлігійнае жыццё беларускага народа" (1926 г.), "Хроніка культурнага жыцця латвійскіх беларусаў", "Справа беларускай асветы і школы ў Літве".

У К. Езавітава была шчыльная сувязь з усімі асяродкамі беларускага жыцця як у БССР, так і іншых краінах — Чэхіі, Літве, Германіі. Цікавыя ліставанні з беларускімі культурнымі дзеячамі: Р. Шырмай (аб прысылцы беларускіх твораў для латышскага радыё), З. Бядулем (аб крытыцы); дырэктарам Беларускай дзяржаўнай бібліятэкі Сімаоўскім, А. Луцкевічам (дзядзькам Антонам), Я. Станкевічам, фалькларыстам Сахаравым, Я. Найдзічам (рэдактарам газеты "Шлях моладзі" ў Вільні), з рэдакцыяй газеты "Іскра Скарыны" ў Празе, Л. Геніюш і г. д.

У 1939 г. К. Езавітаў ахвяраваў кніжкі (каля 2 тыс. экземпляраў) для палонных беларусаў, што трапілі ў Нямеччыну ў часе вайны з Польшчай.

У гады Вялікай Айчыннай вайны прычыніўся да адраджэння беларускай вайсковасці. У 1944 годзе — старшыня Цэнтральнай Управы Беларускага аб'яднання ў Рызе.

Расстраляны савецкай контрразведкай у 1945 годзе.

*З ліста да фалькларыста Сахарава, 1943 год:*

"Мы з вамі даўно ўжо не жывем для сябе, дык пацагнемо і далей наш воз.

Распачыналі мы ў 1921 годзе (у Латвіі. — **Т. П.**). Безлюдзь была. Потым былі і ўздымы працы, і разбурэнні, і новыя ўзлёты і падзенні, але добра тое, што мы не здрадзілі свайму народу і сваім пачуццям, з якімі выйшлі на працу".

*З прыватнага ліста, 1942 г.:*

"Я, апрача кіравання школаю, павінен руліцца аб кнігах для беларускіх школ і забяспечваю ўсіх замежнай беларускай прэсай.

...патрэбны маладыя сілы (настаўнікі. — **Т. П.**), якія змаглі б працаваць і пасля нашага ўходу з жыццёвай сцэны.

... Мала ўмець гутарыць па-беларуску: трэба мець яшчэ беларускае сэрца, чалавечы гонар і разуменне справы і адданасць ёй..."

*З ліста да Е. Штэнберга, 1942 г.:*

"...праца наша ў Латвіі над узгадаваннем кадраў беларускай інтэлігенцыі апраўдала сябе, бо кожны, хто ў нашых гімназіях вучыўся, зараз звязаны з беларускай працай. Шкадую я толькі аб тым, што варожыя і неразумеўшыя нашае адраджэнчае ідэі людзі часта разбуралі нашу працу ў самым разгары яе!..

... адчаянную (роспачную) спробу Ластоўскага і Цвікевіча, якія пайшлі на верную смерць у Менск, каб стварыць тутака хаця ж бы на працягу некалькіх гадоў неўміручыя нацыянальныя каштоўнасці, якімі мы зараз і карыстаемся — не зразумелі многія палітыкі і аплёўвалі і гэтых самаадданых змагароў, заплаціўшых сваім жыццём за сваю спробу даць новыя кірункі беларускім маладым вучоным і літаратарам у Савецкай Беларусі. Яны загінулі не дарма: на іх касцёх вырас той "нацдэмаўскі" рух, які складае цэлую эпоху ў Беларускім адраджэнні..."

*З лістоў да М. Абрамчыка, 1942—1943 г.:*

"...Мы павінны стварыць новае, цвёрдае, але вышліфаванае, ветлівае, ...моцна стоячае на сваім, пакаленне беларускай інтэлігенцыі.

Я... за тое, каб наша грамадства было маральным, ганаровым і мела б заўсёды

